● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

24 лютага 1998 г. аўторак, № 41 (23392)



# ЗВЯЗДА

*... ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ*

**АЛЕ, МАЮЧЫ НА ЎВАЗЕ НАДЗВЫЧАЙНУЮ АКТУАЛЬНАСЦЬ ТЭМЫ, ПАПЯРЭДЖВАЕМ АДРАЗУ:**

## ПАВЫШЭННЯ ПЕНСІЙНАГА ЎЗРОСТУ Ў НАШАЙ КРАІНЕ Ў БЛІЖЭЙШАЙ БУДУЧЫНІ НЕ ПРАДБАЧЫЦЦА

*Нядзельнае тэлевізійнае паведамленне (са спасылкай на семінар адказных чыноўнікаў з удзелам міжнародных экспертаў — «Накірункі рэфарміравання пенсійнай сістэмы ў Рэспубліцы Беларусь») ашаломіла: як быццам бы ў самым хуткім часе павінны змяніцца тэрміны выхаду на пенсію па ўзросце. Пра гэта часам згадвалі і раней. Маўляў, жанчынкі, працуйце да 60 гадоў, а даражэнькія мужчыны — да 65. Наўрад ці каму нават за межамі Беларусі трэба тлумачыць, што гэтая надбаўка ў 5 гадоў для нашага постчарнобыльскага насельніцтва азначае. Атрымаўшы не лепшага роду вестку, мы звярнуліся па каментарыі да намесніка міністра сацыяльнай абароны насельніцтва нашай краіны Генадзя БЯСПАЛАВА.*

Па-першае, чалавек, які, згодна пасадзе, найперш мае не самае, кажучы мякка, далёкае дачыненне да фарміравання пенсіённай палітыкі нашай дзяржавы, і сам... ашаломлены.

*— Дык адкуль жа тады ўзялася такая вось тэлевізійная версія, Генадзь Сяргеевіч? Самі ж журналісты не прыдумваюць...*

— Сапраўды, размова на семінары, які, між іншым, можа толькі ўскосна ўплываць на стварэнне пэўных праектаў і прыняцце пэўных рашэнняў, ішла і пра тое, што ў нашай краіне нямала праблем у сістэме пенсійнага забеспячэння. Удзельнікі семінара звярнулі ўвагу на тое, што існуюць у свеце розныя шляхі для павышэння памераў пенсій. Скажыце, каго сёння задавальняе максімальная пенсія ў 1 мільён 800 тысяч рублёў? А гэта ж, заўважце, максімальная! Сёння склалася такая тэндэнцыя, што працуе толькі 16 працэнтаў пенсіянераў. Раней працавала 25 працэнтаў. Выплата пенсій працуючым пенсіянерам склала ў апошні тэрмін 630 мільярдаў рублёў. Тады як выплата ўвогуле пенсіянерам — 3 трыльёны 960 мільярдаў рублёў. У краіне зараз не працуе 2 мільёны 200 тысяч чалавек. Калі б працавалі даўжэй, то можна нават пры сённяшняй эканамічнай сітуацыі заўважыць адназначна, што да пенсіі — у тым ліку і максімальнай — можна было б дадаць 130 і болей тысяч рублёў. Няўжо гэтая надбаўка не малаважная?..

*— Генадзь Сяргеевіч, і ўсё ж такі, многія сацыяльныя, дэмаграфічныя, медыцынскія і іншыя параметры пераконваюць: узрост для выхаду на пенсію абраны аптымальны...*

— І я пагаджаюся з вамі. Але давайце будзем мець на ўвазе і іншае: чалавек павінен быць сам асабіста заклапочаны памерам будучай пенсіі. Заклапочанасць гэтая вымагае наступных развагаў. Чаму мы, напрыклад, атрымліваем пенсію ў памеры 15—20 працэнтаў ад заробку? У іншых краінах пенсію зарабляюць да 50, а то і да 70 працэнтаў ад заробку. Чалавек, словам, павінен сам аплаціць выхад на пенсію.

*— І ўсё ж такі, на якое рашэнне могуць паўплываць вашы і вашых калег развагі?*

— Калі не памыляюся, у нядзельным тэлевізійным каментарыі былі і такія добрыя словы:... каб не нашкодзіць. Дык вось, мы імкнёмся зрабіць усё, каб не нашкодзіць сацыяльнай абароненасці чалавека. Ведучы на семінары размову пра стан пенсійнага забеспячэння, мы мелі на ўвазе, што трэба шукаць шляхі для змен у лепшы бок, у бок болей высокіх пенсій. Якімі ж канкрэтна будуць гэтыя шляхі — яшчэ пакажа час.

Да слоў Генадзя Бяспалава пакуль што застаецца дадаць, што ніякіх праектаў пра змены ўзросту выхаду на пенсію пакуль не існуе. Ні ў падрыхтаванай Канцэпцыі пенсійнага забеспячэння, ні ў іншых якіх бы там ні было законапраектах.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



**ВАЛОЖЫНСКІЯ МУЗЫКІ**
**Дзіцячы танцавальны калектыў «Раніца» і аматар народнай песні Іван КАЧЫНСКІ — заўсёдныя ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці. Самадзейныя артысты з Валожына — частыя госці ў вёсках раёна. Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## У БЕЛАРУСІ І ПРЫМОРСКАГА КРАЯ ЁСЦЬ УЗАЕМНАЯ ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЬ У РАЗВІЦЦІ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Як і планавалася, вечарам 22 лютага прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыбыў з Японіі ва Уладзівасток. Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, гэты рабочы візіт накіраваны на развіццё далейшага ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва нашай краіны з Прыморскім краем.

Асноўныя мерапрыемствы, звязаныя з прыездам Аляксандра Лукашэнкі ва Уладзівасток, пачаліся ў Дзень абаронцаў Айчыны, які як і ў Беларусі, так і ў Расіі святкуецца 23 лютага. Наведаўшы Далёкаўсходнюю дзяржаўную акадэмію імя адмірала Невяльскога, кіраўнік беларускай дзяржавы сустрэўся з губернатарам Прыморскага края Яўгенам Наздраценкам, а таксама з дзяржаўнымі і грамадскімі дзеячамі Прымор'я.

Вітаючы ў марской акадэміі беларускага прэзідэнта, губернатар края адзначыў, што беларусы і жыхары Уладзівастока, якія знаходзяцца адзін ад аднаго за дзесяткі тысяч кіламетраў, маюць агульныя інтарэсы, мэты і задачы. Выступаючы перад грамадскасцю, Аляксандр Лукашэнка расказаў аб сітуацыі ў нашай краіне і аб узаемаадносінах Беларусі з Расійскай Федэрацыяй.

Пасля сустрэчы ў марской акадэміі беларускі прэзідэнт усклаў кветкі і вянкі да мемарыяла «Баявая слава», а таксама наведаў гвардзейскі ракетны крэйсер «Вараг». Маракі-ціхаакіянцы віталі Аляксандра Лукашэнку 21 залпам з карабельных гармат. Пасля выканання беларускага і расійскага дзяржаўных гімнаў кіраўнік нашай дзяржавы наведаў музей крэйсера, а таксама сустрэўся з кіраўніком Ціхаакіянскага флоту. Гэты карабель быў выбраны не выпадкова: намеснік камандзіра крэйсера — наш зямляк.

23 лютага Аляксандр Лукашэнка наведаў таксама мясцовае тэлебачанне, дзе прыняў удзел у «круглым стале», арганізаваным праграмай «Мясцовы час».

У другой палове дня прэзідэнт Беларусі вылецеў у Новасібірск.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

*АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА:*

### «ВЯЛІКІ СПОРТ У БЕЛАРУСІ ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЕ РАЗВІВАЦЦА»

Як здавальняючае ацаніў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выступленне нашых спартсменаў на Алімпіядзе. Прыбыўшы з Нагана ва Уладзівасток з кароткім рабочым візітам, у інтэрв'ю журналістам кіраўнік дзяржавы адзначыў, што вялікі спорт у Беларусі толькі пачынае развівацца і таму ў нашай краіне на тое, што беларуская зборная пакажа высокія вынікі, не разлічвалі. Аляксандр Лукашэнка растлумачыў гэта тым, што ў час існавання Савецкага Саюза вялікі спорт развіваўся пераважна ў Маскве, а рэгіёны фактычна былі забытымі.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

*XVIII ЗІМОВЫЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ*




## ЯПОНЦЫ РАЗВІТАЛІСЯ З АЛІМПІЙСКІМ АГНЁМ

Пазаўчора ў Спартыўным парку японскага горада Нагана патух агонь XVIII зімовых Алімпійскіх гульняў. Спартсмены з 72 краін, разыграўшы 68 камплектаў медалёў, раз'ехаліся па сваіх краінах, каб праз чатыры гады сабрацца зноў, цяпер ужо ў ЗША.

Вынікі заключных двух дзён спаборніцтваў.

**21 ЛЮТАГА. РАЗЫГРАНА 6 КАМПЛЕКТАЎ МЕДАЛЁЎ.**

**Шорт-трэк. Эстафета. 5000 м (м)**
1. Канада
2. Карэя
3. Кітай.

**Шорт-трэк. 500 м (м)**
1. Такафумі Нісітані (Японія)
2. Юлонг Ан (Кітай)
3. Хітошы Уематсу (Японія)

**Шорт-трэк. 1000 м (ж)**
1. Лі-Кіунг Чунь (Карэя)
2. Янг Янг (Кітай)
3. Хе-Кіунг Вон (Карэя)

**Бабслей. Заезды чацвёрак (м)**
1. Германія
2. Швейцарыя
3. Вялікабрытанія
Францыя

**Біятлон. Эстафета 4x7,5 км (м)**
1. Германія — 1.21.36.2
2. Нарвегія — 1.21.56.3
3. Расія — 1.22.19.3
4. Беларусь — 1.23.14.0 (Аляксей Айдараў, Алег Рыжанкоў, Аляксандр Папоў, Вадзім Сашурын).

**Гарналыжны спорт. Слалам (м)**
1. Ханс-Петэр Бураас (Нарвегія)
2. Оле Хрысціян Фурусет (Нарвегія)
3. Томас Сікора (Аўстрыя)

**Хакей**
Матч за 3-е месца: Канада — Фінляндыя — 2:3.

**22 ЛЮТАГА. РАЗЫГРАНЫ 2 КАМПЛЕКТЫ МЕДАЛЁЎ.**

**Хакей. Матч за 1-е месца**
Чэхія — Расія — 1:0
1. Чэхія
2. Расія
3. Фінляндыя

**Лыжны спорт. 50 км (м)**
1. Б'ерн Дэлі (Нарвегія) — 2.05.08.2
2. Ніклас Енсан (Швецыя) — 2.05.16.2
3. Хрысціян Хофман (Аўстрыя — 2.06.34.4
...27. Аляксандр Саннікаў (Беларусь) — 2.16.34.4
...31. Сяргей Далідовіч (Беларусь) — 2.17.07.5
...51. Вячаслаў Плаксуноў (Беларусь) — сышоў з дыстанцыі.
...69. Мікалай Семяняка (Беларусь) — сышоў з дыстанцыі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

**ТАБЛІЦА РАЗМЕРКАВАННЯ МЕДАЛЁЎ (68 КАМПЛЕКТАЎ)**

| | З | С | Б | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| 1. Германія | 12 | 9 | 8 | 29 |
| 2. Нарвегія | 10 | 10 | 5 | 25 |
| 3. Расія | 9 | 6 | 3 | 18 |
| 4. Канада | 6 | 5 | 4 | 15 |
| 5. ЗША | 6 | 3 | 4 | 13 |
| 6. Галандыя | 5 | 4 | 2 | 11 |
| 7. Японія | 5 | 1 | 4 | 10 |
| 8. Аўстрыя | 3 | 5 | 9 | 17 |
| 9. Карэя | 3 | 1 | 2 | 6 |
| 10. Італія | 2 | 6 | 2 | 10 |
| 11. Фінляндыя | 2 | 4 | 6 | 12 |
| 12. Францыя | 2 | 2 | 3 | 7 |
| 13. Швейцарыя | 2 | 1 | 5 | 8 |
| 14. Чэхія | 1 | 1 | 1 | 3 |
| 15. Балгарыя | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 16. Кітай | 0 | 6 | 2 | 8 |
| 17. Швецыя | 0 | 2 | 1 | 3 |
| 18. Данія | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 19. Украіна | 0 | 1 | 0 | 1 |
| **20. Беларусь** | **0** | **0** | **2** | **2** |
| 21. Казахстан | 0 | 0 | 2 | 2 |
| 22. Бельгія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 23. Аўстралія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 24. Вялікабрытанія | 0 | 0 | 1 | 1 |

*КРЫМІНАЛ. ЗДАРЭННІ*

## ПАЖАР НА ЛІКЁРА-ГАРЭЛАЧНЫМ

Непрыемнасцямі закончыліся рамотныя работы на складзе гатовай прадукцыі Гомельскага лікёра-гарэлачнага завода ў мінулую суботу.

Як мяркуе пажарная служба, у час правядзення электразварачных работ былі парушаны правілы бяспекі, у выніку чаго загарэлася драўлянае перакрыцце цаглянага склада, пачаў лопацца шыфер. У выніку ўзнікнення ў памяшканні высокай тэмпературы пэўныя страты зафіксаваны і па скрынках з алкагольнымі напоямі, якія былі падрыхтаваны да адпраўкі ў гандлёвую сетку.

Агульныя ж страты зараз падлічваюцца. А што да пажарнікаў, дык яны былі на вышыні.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## АДКУЛЬ «ВЫРАСЛІ НОГІ» Ў АІ-93?..

Полацкая міліцыя затрымала ў ходзе правядзення аператыўна-вышуковых аперацый намесніка старшыні аднаго з калгасаў Шаркаўшчынскага раёна. Адзначым, што адказная асоба падазраецца супрацоўнікамі МУС у буйной «правіннасці».

Як стала вядома газеце, спачатку міліцыя ўстанавіла факт крадзяжу ў гэтым калгасе 2 тысяч 500 літраў бензіну АІ-93. Потым у ходзе расследавання выявілася, што намеснік старшыні атрымаў менавіта гэты бензін на падставе прадастаўленых дакументаў на Наваполацкім прадпрыемстве па пастаўках нафтапрадуктаў. Інакш кажучы, бензін у гаспадарку не трапіў. Якім чынам у АІ-93 «выраслі ногі» і куды ён падзеўся? — на гэтыя пытанні і адкажа следства. Узбуджана крымінальная справа.

А ў Нарачанскай рыбнай гаспадарцы таксама своеасаблівае ЧП: адказнаму работніку гаспадаркі спрабавалі даць хабар — 300 долараў ЗША. Паводле папярэдніх даных, мядзяльчанін спрабаваў «падласліцца» да чалавека з мэтай станоўчага вырашэння пытання, якое датычылася водпуску прадукцыі гаспадаркі. Іншымі словамі, прайдзісвет спрабаваў атрымаць рыбу без папярэдняй аплаты. Аднак плаціць прыйдзецца. Праўда, ужо не грашыма...

**Ігар ГРЫШЫН.**

## АРЫШТАВАНЫ НАЧАЛЬНІКІ

Рэчыцкай пракуратурай арыштаваны тры адказныя работнікі сістэмы вытворчага аб'яднання «Беларусьнафта» — намеснік генеральнага дырэктара, намеснікі начальнікаў будаўнічамантажнага ўпраўлення і ўпраўлення сацыяльнага забеспячэння. Яны падазраюцца ў прысваенні грашовых сродкаў у буйных памерах, дачы і атрыманні хабару.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*ПА ГАРАЧЫХ СЛЯДАХ*

## *Васіль ПАНКОЎ:* «ПРА НАС УЖО ВЕДАЮЦЬ «ХТО МЫ ТАКІЯ» І «З ЧЫМ НАС ЯДУЦЬ»

***Толькі вярнуўшыся з Нагана, нападаючы хакейнай зборнай Беларусі Васіль ПАНКОЎ ужо сёння адпраўляецца «з карабля на баль» — у свой клуб славацкі «Слован». А напярэдадні «баля» было б і грэх не зазірнуць у «Звязду» на некалькі хвілін.***

**— Першае, што прыходзіць на язык, — з «малой» перамогай!**

— Дзякуй журналістам «Звязды», якія падтрымлівалі нас сваімі нататкамі ў Японіі, дзякуй усім, хто хварэў за нас, верыў у нас — спадзяюся, мы не зганьбілі сябе.

**— Аб гэтым і гутаркі няма — завяваць сёмае месца сярод мацнейшых хакейных краін свету — толькі гонар. Дарэчы, з якой камандай найбольш цяжка было гуляць?**

— З усімі нялёгка, хоць асабліва нерваваліся ў першай гульні з французамі. А вось у наступным матчы з немцамі, як я лічу, мы проста згулялі ў «шчыры» хакей. Усё атрымлівалася «хак'эй»!

**— Уражанне ад энхаэлаўскіх майстроў шайбы Канады, Швецыі, ЗША, Расіі?**

— Як кажуць, майстры яны і ў Афрыцы майстры. Іншая справа, што рабіць з іх нейкіх ідалаў ні ў якім разе не патрэбна. Ты ж бачыў, што маглі мы і амерыканцам «нашпуляць» і тым жа шведам.

**— Не «нашпулялі», таму што майстэрства не тое?**

— Можа і так. Энхаэлаўцы звykліся з тым, што ў іх малыя па габарытах пляцоўкі — адсюль і хуткаснасць, і сілавая барацьба — я заўважыў, што яны заўсёды на нейкі момант былі хутчэйшыя за нас.

**— Пасля трыумфальнага групавога выступлення вы неяк прагназавалі на каго лепш выйсці: на чэхаў ці расіян?**

— Не ведаю чаму, але мяне больш прываблівалі чэхі. І ўжо ў любым выпадку, гульня з расіянамі мяне ні ў якім разе не задаволіла.

**— Можа таму, што наша каманда загадзя захацела дапамагчы расійскім «сябрам» напярэдадні іх далейшай барацьбы за медалі?**

— Аб гэтым і размовы не можа ісці.

**— Кажуць, наш прэзідэнт вас там падбадзёрваў?**

**(Заканчэнне на 8-й стар.)**

## КІРАЎНІКІ ДЗЯРЖАВЫ ЎСКЛАЛІ КВЕТКІ ДА МАНУМЕНТА ПЕРАМОГІ

У Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл каля манумента Перамогі ў беларускай сталіцы было мнагалюдна. Ушанаваць памяць тых, хто ў гады Вялікай Айчыннай вайны аддаў свае жыцці за вызваленне Радзімы, сюды прыйшлі кіраўнікі дзяржавы, прадстаўнікі грамадскасці і працоўных калектываў горада.

Раніцай 23 лютага вянкі і кветкі да манумента ўсклалі Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Анатоль Малафееў, кіраўнік Савета Рэспублікі Павел Шыпук, прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, іншыя афіцыйныя асобы.

**БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСКАЯ АРМІЯ СВЯТКУЕ ЮБІЛЕЙ

Урачыстае пасяджэнне ў гонар 80-годдзя Узброеных Сіл Беларусі, якое адбылося 20 лютага ў Мінскім Цэнтральным доме афіцэраў, адкрыў дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман, які зачытаў прывітанне прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

Прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг, які выступіў на пасяджэнні, павіншаваў ветэранаў і цяперашніх абаронцаў Айчыны. Ён адзначыў, што гэта свята дае магчымасць дакрануцца да слаўнага мінулага і аддаць даніну павагі ветэранам Узброеных Сіл, подзвіг якіх у гады Вялікай Айчыннай вайны назаўсёды застанецца ў памяці суайчыннікаў.

«У мінулым годзе беларуская эканоміка дасягнула пэўных поспехаў», — сказаў кіраўнік урада. — Кіраўніцтва краіны пастараецца зрабіць усё, каб у хуткім часе кожная беларуская сям'я адчула змены да лепшага».

Міністр абароны Рэспублікі Беларусь Аляксандр Чумакоў, павіншаваўшы ўсіх прысутных з юбілеем, падкрэсліў, што сярод шматлікіх святаў Дзень абаронцаў Айчыны з'яўляецца сапраўды ўсенародным.

На ўрачыстым пасяджэнні прысутнічалі кіраўнікі парламента Беларусі, міністэрстваў і ведамстваў, а таксама шматлікія ветэраны Узброеных Сіл.

**БЕЛТА.**

## АБ СЯРЭДНЯМЕСЯЧНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ

Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя налічаная заработная плата рабочых і служачых у студзені 1998 года склала 3.238.616 (у снежні 1997 года была 3.461.972 рубля) і павялічылася ў параўнанні са студзенем 1997 года амаль у 2 разы.

## БЕЛАРУСКІ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ КАЛЯНДАР

**24 ЛЮТАГА**

80 гадоў з дня нараджэння (1918) **В. Ф. Сербіна,** дырыжора, хормайстра, заслужанага артыста, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, народнага артыста Расіі.

75 гадоў з дня нараджэння (1923) **І. М. Глебава**, скульптара.

60 гадоў з дня нараджэння (1938-1989) **І. У. Скурко,** паэта-песенніка, перакладчыка.

***Улассе, Валоссе***

Свята жывёлы, водгукі культу ахоўніка яе Велеса-Воласа — галоўнага ў пантэоне беларускай міфалогіі.

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 23 ЛЮТАГА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белкаапбанк | 43200 | 44000 | 23700 | 24200 | 7000 | 7200 | 226-8544 |
| «Навакам» | 43300 | 44000 | 23600 | 24200 | 7000 | 7200 | 260-3402 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 32480.00 | | 17828.52 | | 5360.00 | | Курс на 24.02.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0640 | | 3.3213 | | 10000 BLR - 1.3756 | | |
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 44040 | 44120 | 24158 | 24208 | 7267 | 7283 | |

**Каціруецца ўкраінская грыўня*

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галоўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

## «БЕЛМЯСЦПРАМ» ВЕДАЕ СВАЁ МЕСЦА...

**Выязное пасяджэнне савета канцэрна «Белмясцпрам» прайшло напрыканцы мінулага тыдня ў Магілёве**

Як паведамляла ўжо наша газета (гл. нумар за 19 лютага), канцэрн у цэлым і большасць вытворчых падраздзяленняў яго спрацавалі летась вельмі нядрэнна. Аднак эйфарыі, нейкай там самазаспакоенасці на пасяджэнні савета «Белмясцпрама» зусім не адчувалася. Адбылася зацікаўленая, дзелавая размова аб новых задачах і рубяжах, аб тых праблемах і нявырашаных яшчэ пытаннях, што замінаюць упэўненаму пераходу прадпрыемстваў і арганізацый канцэрна да ўстойлівых эканамічных паказчыкаў.

У сістэме «Белмясцпрама» ёсць на каго раўняцца. Прыклады таго, як трэба працаваць у цяперашніх складаных, іншы раз супярэчлівых умовах, з месяца ў месяц, з квартала ў квартал паказваюць калектывы Ваўкавыскага акцыянернага таварыства «Волмет», Слуцкага завода «Эмальпосуд», Полацкага завода сельскагаспадарчага абсталявання, арэнднага прадпрыемства «Мінскі доследна-эксперыментальны завод імя Гастэлы», адкрытага акцыянернага таварыства «Беларуская мастацкая кераміка», Даманавіцкага і Пружанскага камбінатаў будматэрыялаў... Як бачым, у сістэме мясцовай прамысловасці ўдала знайшлі сябе вытворчыя калектывы розных форм уласнасці. Значыць, уся справа ў арганізацыі вытворчасці, уменні працаваць з людзьмі, шукаць і знаходзіць выхады з самых крытычных становішчаў. І справядліва зазначыў на пасяджэнні савета прэзідэнт канцэрна Міхаіл Поўх: сёння не трэба ганяцца за тэмпамі, а рабіць тую прадукцыю, якая патрэбна людзям...

Прагнозам эканамічнага развіцця на 1998 год канцэрну вызначаны высокія рубяжы. Побач з павелічэннем аб'ёму вытворчасці тут трэба ажыццявіць комплекс мераў па паляпшэнню фінансавага становішча, зніжэнню даўгоў, паскорыць ажыццяўленне праграмы імпартазамяшчэння, павялічыць аб'ёмы экспарту, весці штодзённую работу па эканоміі сыравіны, энерганосьбітаў, іншых рэсурсаў. Працаўнікі і кіраўнікі ведаюць, як неабходна працаваць. Значыць, будуць і набыткі.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**
*г. Магілёў.*

**Плануецца, што сёння, 24 лютага, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка сустрэнецца ў Новасібірску з вучонымі Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук. Гэтая сустрэча ставіць на мэце азнаямленне беларускай дэлегацыі з унікальным вопытам арганізацыі вялікай навукі ў Сібіры і, магчыма, аднаўленне традыцыйных сувязяў беларускіх вучоных з іх сібірскімі калегамі. Пракаменціраваць гэтую далёка не радавую падзею карэспандэнт «Звязды» папрасіў прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі акадэміка А. П. ВАЙТОВІЧА.**

## ЦІ ПОЙДУЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ВУЧОНЫЯ ІЗНОЎ ПА ШЛЯХУ ЕРМАКА?

Я перакананы, што сваім візітам у новасібірскі Акадэмгарадок А. Р. Лукашэнка робіць вельмі карысную справу як для беларускай навукі, так і для ўсёй народнай гаспадаркі рэспублікі. Перш-наперш я вельмі спадзяюся (і падставы для такіх спадзяванняў ёсць), што гэты візіт кіраўніка нашай дзяржавы паспрыяе аднаўленню ў поўным аб'ёме тых даволі моцных творчых сувязяў, якія існавалі паміж беларускімі і сібірскімі навукоўцамі літаральна дзесяцігоддзе таму. Быў нават у гісторыі нашай Акадэміі навук такі перыяд, калі яна даволі актыўна «прырастала» за кошт навуковых кадраў Сібіры.

Дастаткова прыгадаць, што ў 1961 г. па дамоўленасці з Прэзідыумам Сібірскага аддзялення АН СССР у Мінск з Новасібірска была пераведзена лабараторыя вымяральнай і вылічальнай тэхнікі на чале з членам-карэспандэнтам АН СССР Валянцінам Аўдзеевым. Пазней на базе гэтай лабараторыі быў створаны адзін з буйнейшых інстытутаў нашай акадэміі — Інстытут электронікі, які і сёння захоўвае цесныя творчыя сувязі з новасібірскімі Інстытутам матэматыкі і Інстытутам аўтаматыкі і электраметрыі, а таксама з томскім Інстытутам высокіх энергій. Сумесна з вучонымі памянёных сібірскіх НДІ калектыў Інстытута электронікі НАН Беларусі распрацоўвае разнастайныя мікрамеханічныя, оптыка-электронныя і магнітаэлектрычныя вымяральныя прыстасаванні і прыборы.

Другі прыклад. У 1976 г. па запрашэнню Прэзідыума АН БССР у Мінск на працу пераехаў вядомы спецыяліст Інстытута тэарэтычнай і прыкладной механікі Сібірскага аддзялення АН СССР Рэм Салаухін, які ўзначаліў наш акадэмічны Інстытут цепла- і масаабмену. Пад кіраўніцтвам акадэміка Р. І. Салаухіна ў Мінску атрымалі развіццё шэраг новых навуковых напрамкаў у галіне даследавання высокатэмпературнай газадынамікі, якія цяпер ужо актыўна распрацоўваюцца яго вучнямі.

**— Ці можна адсюль зрабіць выснову, што Сібір была своеасаблівым кадравым «донарам» для беларускай навукі?**

— Хутчэй, гэта быў вельмі спрыяльны для развіцця як беларускай, так і сібірскай навукі працэс узаемавыгаднага абмену навуковымі кадрамі і творчымі напрацоўкамі. Мы запрашалі да сябе на працу сібірскіх вучоных, але і ад нас ехалі працаваць у Сібір беларускія даследчыкі. Дастаткова сказаць, што беларускія карані маюць такія славутыя сібірскія вучоныя, як трэці па ліку старшыня Сібірскага аддзялення РАН акадэмік Валянцін Капцюг, які, на вялікі жаль, нядаўна памёр, а таксама бескампрамісны абаронца экалогіі Байкала акадэмік Андрэй Трафімук.

**— Крыху раней, Аляксандр Паўлавіч, Вы сказалі, што візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі ў Новасібірск прынясе карысць не толькі для беларускай навукі, але і для ўсёй народнай гаспадаркі рэспублікі. Калі ласка, патлумачце.**

— Сёння агульнавядомай ісцінай з'яўляецца тое, што народная гаспадарка любой краіны развіваецца нармальна толькі тады, калі яна мае шырокі выхад на знешні рынак дзякуючы добра наладжанай вытворчасці канкурэнтаздольнай прадукцыі. Стварэнне падобнай прадукцыі могуць забяспечыць сучасныя айчынныя высокія тэхналогіі і айчынныя фундаментальныя і прыкладныя даследаванні. Падкрэсліваю і айчынныя тэхналогіі і айчынныя даследаванні. Бо наіўна чакаць ад Захаду, што ён стане ўкараняць у нас на Беларусі найноўшыя навукаёмістыя тэхналогіі, ствараючы тым самым канкурэнтаў для сваіх тавараў. Адна наладзіць непарыўную сувязь паміж айчыннай фундаментальнай навукай, доследна-канструктарскімі работамі і сучаснай вытворчасцю — справа вельмі складаная. Новасібірскі Акадэмгарадок з'яўляецца, відаць, адным з лепшых у Расіі прыкладаў укаранення ў жыццё славутага «трохвугольніка»: развіцця акадэмічнай навукі, падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі і сувязі з прамысловасцю ў непарыўным адзінстве. Вось чаму знаёмства кіраўніка нашай дзяржавы з вопытам новасібірцаў па арганізацыі надзейнай работы такога «трохвугольніка» можа прынесці відавочную карысць не толькі для беларускай навукі, але і для ўсёй народнай гаспадаркі Беларусі.

**— Часам у перыядычным друку можна прачытаць выказванні спецыялістаў аб тым, што ў сучасных рыначных умовах прасцей самастойна праводзіць даследаванні, чым несці вялізныя выдаткі на паездкі вучоных за мяжу, набыццё замежнай навуковай літаратуры і перыёдыкі, а тым больш на ажыццяўленне сумесных навуковых даследаванняў.**

— З гэтымі выказваннямі нельга пагадзіцца. Каб паказаць, што яны не маюць ніякага дачынення да супрацоўніцтва беларускіх і расійскіх вучоных, прывяду літаральна некалькі прыкладаў. Яны сведчаць, што іншым разам нават сумесных сродкаў не хапае для вырашэння важнай навуковай праблемы. Так, супрацоўнікі Цэнтральнага батанічнага сада НАН Беларусі маюць намер сумесна з акадэмічнымі вучонымі Цэнтральнага сібірскага батанічнага сада правесці шэраг палявых экспедыцый з мэтай выяўлення ў прыродных флорах Сібіры, Алтая і Далёкага Усходу невядомых дагэтуль відаў, формаў і гатункаў вострапахучых, лекавых і дэкаратыўных раслін для наступнай іх інтрадукцыі ў розных рэгіёнах Беларусі і Расіі, а потым і стварэння на іх аснове новых відаў харчовых дабавак, лекавых прэпаратаў і прыёмаў выкарыстання ў фітадызайне. Ажыццяўленне гэтых вельмі патрэбных і карысных для навукі і практыкі абедзвюх краін палявых экспедыцый патрабуе сродкаў (і немалых), але такіх сродкаў беларускі і сібірскі батанічныя сады пакуль што, на жаль, не маюць.

Яшчэ прыклад. Для шматтомнага выдання «Фальклор народаў Сібіры і Далёкага Усходу» Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы НАН Беларусі сумесна з супрацоўнікамі аддзела фальклору Інстытута гісторыі Сібірскага аддзялення РАН мог бы правесці шэраг палявых экспедыцый з мэтай вывучэння вуснай народнай творчасці жыхароў шматлікіх беларускіх вёсак у сібірскім рэгіёне, а потым па выніках гэтых экспедыцый падрыхтаваць асобны том «Беларускі фальклор Сібіры». Узаемная карысць ад такіх сумесных палявых экспедыцый не выклікае сумненняў: дзякуючы такім экспедыцыям нашыя фалькларысты змаглі б пашырыць свае ўяўленні аб межах распаўсюджвання і формах існавання беларускага фальклору, а расійскі бок змог бы выкарыстаць вопыт лепшых беларускіх знаўцаў вуснай народнай творчасці для назапашвання і апрацоўкі палявога матэрыялу, а потым і падрыхтоўкі адпаведнага акадэмічнага выдання. На жаль, для рэалізацыі і гэтага цікавага сумеснага праекта ў беларускіх і сібірскіх даследчыкаў ізноў-такі не хапае сродкаў.

**— У якім жа стане знаходзіцца сёння беларуска-сібірскае навуковае супрацоўніцтва?**

— Шматкратнае павелічэнне за апошняе дзесяцігоддзе транспартных, паштовых і іншых выдаткаў, неабходных для правядзення сумесных даследаванняў, па зразумелых прычынах не магло не адбіцца на аб'ёмах такога супрацоўніцтва ў бок іх змяншэння. Але цалкам спыніць узаемавыгадныя творчыя сувязі беларускіх і сібірскіх навукоўцаў не пад сілу нават указаным негатыўным рыначным фактарам. Па многіх навуковых напрамках такое супрацоўніцтва актыўна развіваецца з відавочнай карысцю для абодвух бакоў. Ведаю аб гэтым з вопыту Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі, дзе яшчэ зусім нядаўна я працаваў дырэктарам. У нас былі і працягваюць захоўвацца трывалыя навуковыя кантакты з вучонымі Інстытута лазернай фізікі Сібірскага аддзялення РАН, якім кіруе мой даўні сябар акадэмік Сяргей Мікалаевіч Багаеў. І сёння паміж нашымі інстытутамі ідзе інтэнсіўны інфармацыйны абмен, ладзяцца сумесныя навуковыя канферэнцыі і іншыя падобныя мерапрыемствы.

У сваю чаргу, Інстытут фізікі імя Б.І.Сцяпанава НАН Беларусі ўсяляк імкнецца пашыраць свае творчыя сувязі з томскім Інстытутам оптыкі атмасферы (у галіне стварэння сеткі лідарных станцый для маніторынгу стратасфернага аэразолю і азону), з тым жа Інстытутам лазернай фізікі (у галіне стварэння пераналаджваемых лазераў ультракароткіх імпульсаў і іх прымянення ў лазерных спектрометрах высокага часавага распазнавання) і іншымі сібірскімі НДІ. Шырокім тэматычным спектрам даследаванняў характарызуецца навуковае супрацоўніцтва нашага Акадэмічнага навуковага комплексу «Інстытут цепла- і масаабмену імя А.В.Лыкава» з рознымі ўстановамі Сібірскага аддзялення РАН (Інстытутам цеплафізікі, Інстытутам тэарэтычнай і прыкладной механікі, Інстытутам гідрадынамікі, Інстытутам каталізу і іншымі).

Прычым інстытуты нашай Акадэміі навук узаемадзейнічаюць не толькі з аднапрофільнымі акадэмічнымі ўстановамі Сібіры, але і з прамысловымі прадпрыемствамі гэтага рэгіёна. Напрыклад, Інстытут прыкладной фізікі НАН Беларусі паспяхова ўкараніў распрацаваныя ім сродкі неразбуральнага кантролю на заводзе «Сібсельмаш» і Навасібірскім металургічным камбінаце. Але патэнцыял беларуска-сібірскага навуковага і навукова-тэхналагічнага супрацоўніцтва яшчэ далёка не вычарпаны. Вось чаму ўсе беларускія навукоўцы звязваюць з візітам прэзідэнта нашай краіны ў гэты сусветна вядомы навуковы цэнтр вялікія спадзяванні на далейшае пашырэнне такога ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Чым прыцягвае да сябе Турцыя «нестандартных» амерыканскіх турыстаў? Перш за ўсё «нестандартнымі» формамі абслугоўвання. У ЗША зараз налічваецца 18,5 мільёна гомасексуалістаў, якія робяць 162 выезды ў год у розныя куткі планеты. І для многіх з іх Турцыя становіцца ўсё больш прываблівай. За апошнія гады яна ўжо забяспечвае «патрэбы» прыкладна 400 тысяч прадстаўнікоў сексуальных меншасцяў. Вялікай папулярнасцю там карыстаюцца марскія прагулкі на яхтах, каманда і абслугоўваючы персанал якіх складаецца з прыхільнікаў аднаполых вяселляў. Ужо больш за 200 амерыканскіх фірмаў арганізуюць «блакітныя» туры ў Турцыю.

**ІТАР-ТАСС**

*Нацыянальная асамблея, ніжняя палата французскага парламента, адобрыла ўнесены левым урадам краіны законапраект аб скарачэнні працоўнага тыдня. Згодна з тым дакументам, яго працягласць да 2002 года павінна скласці 35 гадзін замест цяперашніх 39. Па задумцы аўтараў законапраекта, гэтая мера павінна прывесці да вызвалення працоўных месцаў у прамысловасці і сферы абслугоўвання і тым самым аблегчыць праблему занятасці ў краіне, дзе ўзровень беспрацоўя зараз перавышае 12 працэнтаў.*

**Асашыэйтэд Прэс**

## «Хто дурыць людзей?»

**На публікацыю «Звязды» за 7 лютага аб дзейнасці іншаземнага прадпрыемства «Бума ЛЛЦ» першым адгукнуўся Мінскі гарадскі тэрытарыяльны камітэт прадпрымальніцтва і інвестыцый:**

«№2-04/190 ад 19.02.98

Мінскі гарадскі тэрытарыяльны камітэт прадпрымальніцтва і інвестыцый у межах сваёй кампетэнцыі паведамляе, што замежнае прадпрыемства «Бума ЛЛЦ», зарэгістраванае ў Міністэрстве знешнеэканамічных сувязяў Рэспублікі Беларусь за № 1489 ад 29.04.97, атрымала ліцэнзію № 4800 ад 27.11.97 на ажыццяўленне рознічнага гандлю праз паштовае аддзяленне. Указаная ліцэнзія выдадзена ў поўнай адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

У апошні час пачасціліся выпадкі публікацый у газетах недакладнай інфармацыі аб наяўнасці ў ЗП «Бума ЛЛЦ» ліцэнзіі на правядзенне рэкламнай гульні (газета «Рэспубліка» ад 31.01.98).

Па гэтаму факту намі накіравана пісьмо ў Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку аб прыпыненні рэкламы ўказанай гульні.

Акрамя таго, сваёй дзейнасцю ЗП «Бума ЛЛЦ» парушае п. 2.1. Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 208 ад 24.05.96 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню дзейнасці суб'ектаў гаспадарання»:

— ажыццяўляла дзейнасць без належнага дазволу (ліцэнзіі);

— не забяспечвала размяшчэння сваіх органаў кіравання, а таксама дакументаў бухгалтарскага ўліку і справаздачнасці па юрыдычнаму адрасу.

Згодна з гэтым пунктам, ЗП «Бума ЛЛЦ» падлягае ліквідацыі, аб чым намі накіравана інфармацыя ў Міністэрства знешнеэканамічных сувязяў Рэспублікі Беларусь.

Старшыня Камітэта В.І. Шлык.

Мы, як і абяцалі, друкуем адказы на публікацыю без скарачэнняў і змяненняў. Чытач сам зможа зрабіць высновы. Заўважым толькі, што па сутнасці адказу незразумела, каму дадзена права прызнаваць законнасць выдачы ліцэнзій і чаму гандаль у паштовым аддзяленні без згоды «Белпошты» лічыцца нармальнай з'явай. Не дай Божа, хутка пачнуць выдаваць ліцэнзіі на гандаль у храме!

Дзякуем Мінскаму гарадскому камітэту прадпрымальніцтва і інвестыцый.

Чакаем адказаў ад іншых ведамстваў.

**Віктар ХУРСІК.**

# «ПРЫЁМНАЯ ГАДЗІНА» МІНІСТЭРСТВА ЖЫЛЛЁВА-КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКІ

**(Працяг. Пачатак у №№ за 19, 20 і 21 лютага.)**

***— Чалавек, каб атрымаць службовае жыллё, павінен працаваць 10 гадоў. Чулі, што ў новым Жыллёвым кодэксе тэрмін будзе зменшаны да 5 гадоў. Калі ў рэшце рэшт будзе прыняты новы Жыллёвы кодэкс?***

**Васіленка Т.М., Мінскі раён**

— Жыллёвым кодэксам Рэспублікі Беларусь тэрміны прадастаўлення службовага жылля не вызначаны. У розных рэгіёнах нашай дзяржавы гэтыя тэрміны розныя. Артыкулам 123 Жыллёвага кодэкса ўстаноўлена, што асобы, адпрацаваўшыя на прадпрыемстве, ва ўстанове, арганізацыі, якія прадаставілі ім службовае жылое памяшканне, не менш як дзесяць гадоў, не могуць быць выселены без прадастаўлення іншага жылога памяшкання. У праекце Жыллёвага кодэкса прадугледжана такая ж норма. Разгляд праекта Жыллёвага кодэкса ў першым чытанні плануецца на веснавой сесіі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

***— Чаму ў дагаворы па найму жылля заўсёды ідзе гаворка пра нейкае «Палажэнне»? Ці магчыма ў дагавор дапісваць новыя пункты?***

**Мацяка А.І., г. Смаргонь**

— «Тыпавы дагавор найму жылога памяшкання ў дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду ў Беларускай ССР» зацверджаны пастановай Савета Міністраў БССР ад 8 мая 1986 года № 129. У тыпавым дагаворы найма прадугледжаны правы і абавязкі як наймальніка, так і ўласніка жылля. У вышэйназваным дагаворы маецца спасылка на «Правілы карыстання жылымі памяшканнямі, утрымання жылога дома і прыдамавой тэрыторыі ў Беларускай ССР», якія таксама зацверджаны пастановай Савета Міністраў. Паколькі тыпавы дагавор зацверджаны пастановай урада, змяненні ў яго могуць быць унесены таксама толькі пастановай урада. Пасля прыняцця новага Жыллёвага кодэкса «Тыпавы дагавор найму жылога памяшкання ў дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду ў Беларускай ССР» будзе пераглядацца.

***— Сусед, што жыве паверхам ніжэй, наладжвае ледзь не кожны дзень п'янкі, выкідвае смецце праз акно, кватэра ў яго ў самым дрэнным стане. Чуў, што ў новым Жыллёвым кодэксе да такіх жыхароў будуць прымяняцца меры ўздзеяння аж да адсялення. У выпадку яшчэ якіх учынкаў можа прымяняцца адсяленне?***

**Пятроў С.К., г. Горкі**

— Праектам Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь прадугледжваецца, што, калі наймальнік, члены яго сям'і ці іншыя асобы, якія сумесна з ім пражываюць, сістэматычна разбураюць альбо псуюць жылое памяшканне, ці выкарыстоўваюць яго не па прызначэнню, сістэматычным парушэннем правілаў карыстання робяць немагчымым для іншых пражыванне з імі ў адной кватэры ці ў адным доме, а меры папярэджання і грамадскага ўздзеяння аказаліся безвыніковымі, то па патрабаванню ўласніка жылля ці іншых зацікаўленых асоб высяленне вінаватых адбываецца без прадастаўлення іншага жылога памяшкання. Такая ж мера пакарання прымяняецца ў дачыненні да грамадзян у выпадку прызнання несапраўдным дагавора найму жылога памяшкання з-за неправамерных дзеянняў наймальніка і членаў яго сям'і пры атрыманні жылога памяшкання ў наём. Таксама прадугледжана, што грамадзяне, якія пакінулі жылое памяшканне ці выехалі ў іншае жылое памяшканне ў тым жа населеным пункце і пазбягаюць выканання абавязкаў, што вынікаюць з дагавора найму жылога памяшкання, могуць быць у судовым парадку прызнаны страціўшымі права карыстання жылым памяшканнем па іску зацікаўленых асоб.

***— Абодва бацькі жывуць у вёсцы (маці — былы вязень канцлагера, бацька — інвалід вайны). Ці можна іх прызнаць маючымі патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў? Калі магчыма, то якая працэдура?***

***— Ці ёсць магчымасць у чалавека, які стаіць у чарзе на атрыманне кватэры, узяць крэдыт? Хацелася б даведацца, ці ёсць у Мінску кватэры няновыя, якія б можна было набыць тым, хто стаіць у чарзе, па невялікаму кошту? Якім чынам можна прыватызаваць пакой у інтэрнаце?***

**Мінчукова Н.Т., г. Мінск**

— Артыкулам 34 Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь, а таксама пунктам 4 «Правілаў уліку грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, і прадастаўлення жылых памяшканняў у Беларускай ССР» устаноўлены падставы для прызнання грамадзян маючымі патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Гэтыя падставы не залежаць ад катэгорыі грамадзян, г. зн. ад таго, ці з'яўляецца ён інвалідам вайны, вязнем канцлагера і г.д. Паколькі ў пытанні ніводнай з гэтых падстаў не ўказана, не ўяўляецца магчымым адказаць, ці з'яўляюцца вашыя бацькі маючымі патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Пастаноўка грамадзян на ўлік маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў адбываецца на падставе заявы, якую неабходна падаць па месцы жыхарства ў выканаўчы камітэт мясцовага Савета дэпутатаў, а па месцы працы — адміністрацыі прадпрыемства, установы, арганізацыі. Да заявы даюцца даведка жыллёва-эксплуатацыйнай арганізацыі альбо праўлення кааператыва аб займаемым жылым памяшканні і саставе сям'і грамадзяніна, даведка санітарна-эпідэміялагічнай установы ці органа тэхнічнай інвентарызацыі аб неадпаведнасці займаемага памяшкання ўстаноўленым санітарным і тэхнічным патрабаванням (калі просьбы аб пастаноўцы на ўлік матывуюцца неадпаведнасцю памяшкання гэтым патрабаванням). Грамадзяне, якія карыстаюцца правам першачарговага ці пазачарговага атрымання жылых памяшканняў, дадаткова павінны прадставіць дакументы, якія пацвярджаюць гэтае права.

Грамадзянін, што стаіць на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, мае права ў парадку чарговасці атрымаць крэдыт на будаўніцтва жылога памяшкання ў саставе жыллёва-будаўнічага кааператыва, калектыву індывідуальных забудоўшчыкаў і ў парадку долевага ўдзелу ў жыллёвым будаўніцтве. Што ж датычыцца набыцця кватэр паўторнага засялення па невялікаму кошту, то для ўдакладнення гэтага пытання неабходна звярнуцца ў мясцовы выканаўчы і распарадчы орган па месцы жыхарства.

У адпаведнасці з артыкулам 5 Закона «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду Рэспублікі Беларусь» не падлягаюць прыватызацыі жыллёвыя памяшканні ў інтэрнатах.

**(Заканчэнне будзе.)**

*АКТУАЛЬНЫ КАМЕНТАРЫЙ*

## ВАРШАЎСКІЯ ПАЛІТЫКІ ВЫРАШЫЛІ ПАБУДАВАЦЬ СЦЕНКУ З ПАЛЯКАЎ?

«Садам з Беларусі». Няцяжка здагадацца, што гэта назва газетнай публікацыі аб нашай дзяржаве. Не памыліцца той, хто падумае, што яна ўзята з лексікона апазіцыйнай прэсы. Артыкул пад прыведзеным у пачатку абзаца загалоўкам і за подпісам Яна Чурыловіча з'явіўся ў Польшчы. Вельмі ж нераўнадушныя там да Беларусі і да Лукашэнкі. Не падабаецца. Так не падабаецца, што падводзіць пачуццё меры. Даўно падводзіць. І настолькі, што спецы з рэдакцыі часопіса «Впрост» могуць дазволіць сабе папрацаваць з фарбамі і пэндзлем над партрэтам Лукашэнкі і надаць кіраўніку Беларусі такія рысы, якімі маці яго зусім не надзяляла. Глядзіце, маўляў, суайчыннікі, як нам не пашанцавала з суседам. Але раней гэта здаралася эпізадычна. З прыходам да ўлады новага ўрада Польшча «ўзялася» за Беларусь па-сапраўднаму. Узялася вучыць жыць. У першую чаргу — вучыць дэмакратыі.

У Польшчы, між іншым, вельмі любяць паразважаць на тэму: пашанцавала ёй ці не пашанцавала з суседзямі. Ды што там паразважаць, падкрэсліць: не пашанцавала і ўсе тут, таму заўсёды была вымушана Рэч Паспаліта шукаць сяброў далёка ад сваіх граніц. Нават такі вядомы чалавек, як кінарэжысёр Анджэй Вайда, разважае такім чынам.

Пакінем убаку простае жыццёвае пытанне: у якое становішча ставіць сябе, скажам, асобны чалавек, які не жадае мець добрыя адносіны з суседзямі, з якімі яму ўсё роўна прыйдзецца жыць. Калі ўжо закранулі і гістарычны аспект, спытаем аб іншым. А ці пашанцавала суседзям Польшчы на Польшчу? Напрыклад, прусам, тым самым, ад якіх засталося ў гісторыі толькі імя пасля таго, як на іх галовы князь Конрад Мазавецкі заклікаў тэўтонскіх рыцараў? Беларусам, літоўцам, украінцам, чые землі на працягу многіх стагоддзяў падвяргаліся экспансіі з-за Буга? Чэхам, у якіх у самы цяжкі для іх час гітлераўскага ўварвання ў сакавіку 1939 санацыйная Польшча адхапіла кавалак тэрыторыі: Зальзье і Цешынскую Сілезію? Нават Чэрчыль параўнаў тады Польшчу з гіенай. Цяперашнія палітыкі і публіцысты ў Варшаве часта паўтараюць, што ў верасні 1939 Саветы нанеслі ім «удар у спіну». А вось аб тым, што гэты палітычны прэцэдэнт створаны польскімі дзяржаўнымі мужамі, упарта забываюць. Нездарма забываюць, ведаюць, значыць, што прэцэдэнт у палітыцы многае значыць.

Аказаўшыся паміж Германіяй і Руссю-Расіяй, Польшча заўсёды апасалася агрэсіі з-за Эльбы і заўсёды інтрыгавала супраць Расіі, страчвала землі на захадзе і старалася кампенсаваць страты на ўсходзе. У польскай літаратуры на гістарычныя тэмы часта можна сустрэць напоўненыя гордасцю словы аб тым, як кароль Баляслаў Храбры спрабаваў свой меч аб кіеўскія вароты. Калі гэта было? У адзінаццатым стагоддзі. А пасля Крэўскай уніі пачалася адкрытая шматвяковая палітычная, ваенная, эканамічная, духоўная экспансія польскай дзяржавы на землях цяперашняй Беларусі і Ураіны. Яна — са стогадовым, выратавальным для нас, перапынкам — працягвалася ад Ягайлы да Пілсудскага, які не саромеючыся казаў: сфера польскай актыўнасці ляжыць на ўсходзе.

Цяперашні міністр замежных спраў Польшчы, які на чале дэлегацыі АБСЕ збіраецца інспектаваць Беларусь і ставіць нам ацэнкі па паводзінах, пры жаданні можа наведаць, напрыклад, Брэстчыну. Там яшчэ жывыя людзі, якія могуць расказаць, як каралі беларускіх дзяцей у школах за кожнае слова, сказанае не папольску, як бязлітасна закрываліся беларускія школы. А педагогі, вучоныя без цяжкасцяў растлумачаць, што навучанне дзяцей на чужой для іх мове з'яўляецца адной з формаў насаджэння непісьменнасці сярод большасці насельніцтва. Чужая мова лёгка забываецца, а на роднай чалавек ведаў і не атрымліваў. Вось такая атрымліваецца гісторыя з асветай.

Няцяжка нагадаць і словы польскага міністра культуры, сказаныя ў пачатку трыццатых гадоў, аб тым, што праз паўстагоддзя на «крэсах усходніх» не будзе нават пахнуць беларусамі. Калі б ажыццявілася гэта задумка, мы ўжо не мелі б права быць самімі сабой. А гэта ўжо гісторыя са свабодай і дэмакратыяй.

І тым не менш, нягледзячы на такі вось гістарычны след, пакінуты на беларускіх землях і ў беларускіх душах, польская дзяржава зноў бярэ на сябе смеласць вучыць нас дэмакратыі. Сіндром «крэсаў усходніх» працягвае гняздзіцца ў душы саноўніка за Бугам. Вельмі хочацца зноў пакіраваць у былых вотчынах каралевы Ядвігі і каралевы Боны. Вядома, яны разумеюць, што гэта ўжо немагчыма, але немагчымага заўсёды хочацца больш, чым магчымага.

І ўсё-такі гэта, хутчэй за ўсё, спадарожны момант, чым галоўны. Сутнасць справы заключаецца ў тым, што польскія палітыкі зноў павярнулі свае позіркі на захад. Сімптомы ахаладжэння да Беларусі намеціліся даўно, аб гэтым скажуць многія, хто наведваў Польшчу. Тут можна ўзгадаць і словы прэзідэнта Квасьнеўскага, які раптам пачаў праяўляць клопат аб дэмакратыі ў Беларусі, і перадыслакацыю да Буга польскіх воінскіх фарміраванняў, і, вядома ж, уведзеныя напярэдадні гэтага года новыя правілы перасячэння граніцы для нашых і расійскіх грамадзян, і заяву кіраўніка беларускага КДБ аб асаблівай увазе польскіх спецслужбаў да нашых суайчыннікаў.

Між іншым, грамадзяне Беларусі і Расіі ездзілі ў Польшчу не з пустымі кішэнямі. Наадварот, яны пакідалі там многія сотні мільёнаў долараў, і ў Польшчы, асабліва ў прыгранічных ваяводствах, утварыліся цэлыя грамадскія слаі, якія жывуць менавіта дзякуючы «чаўнакам». Імі таксама былі з абурэннем успрыняты новыя правілы перасячэння граніцы. Пасля таго, як апусцелі рынкі ў Беластоку, Лодзі, адбыліся шматлікія пратэсты. У Беластоку дайшло да таго, што тысячы гандляроў з мясцовых базараў, абароты на якіх зменшыліся на 50—80 працэнтаў, як паведамляла польскае тэлебачанне, заблакіравалі адзіную дарогу да пагранічнага пераходу, патрабуючы адмены новаўвядзенняў. У адказ ад уладаў пачуліся абвінавачанні ў адрас беларускага боку і адкрытае яхідства: ай-яй, у сувязі са скарачэннем наплыву беларусаў звузіцца вярбовачная база для польскіх спецслужбаў.

У пазіцыі, якую занялі польскія афіцыйныя асобы і прэса, што адлюстроўвае іх думку, не можа не здзіўляць адзін аспект: яны не хочуць нічога чуць. Пан Герэмек збіраецца ў Мінск толькі як кіраўнік дэлегацыі АБСЕ і не мае намеру, паводле яго слоў, весці размову аб двухбаковых адносінах, быццам гэтых адносінаў няма або яны былі і ёсць бездакорныя.

Спецы ад прэсы проста бесцырымонныя. Адзін з іх, Антоні Падольскі, прадстаўлены газетай «Жычэ» як спецыяліст па праблемах Усходу і нацыянальнай бяспекі, сцвярджае: у папроках беларускага боку не трэба шукаць логікі (!), іх узровень і метады тыповыя для савецкай прапаганды, а вакол Лукашэнкі групуецца якраз па-прасавецку настроеная частка насельніцтва. Нічога сабе частка, пан Падольскі. Прэзідэнт Квасьнеўскі і ў сне не можа ўбачыць, што яго падтрымлівае звыш 80 працэнтаў насельніцтва.

Ад гэтай позы яўна патыхае высакамернасцю, і пану Падольскаму, відаць, няўцям, што з-за гістарычных прычын, аб якіх ужо было сказана, такія манеры ў паводзінах палякаў беларусамі ўспрымаюцца асабліва балюча, выклікаючы рэфлектыўнае непрыманне.

Далей — больш. Польшча, маўляў, фактычна пагранічная дзяржава ў НАТО, і калі яна жадае праводзіць актыўную палітыку на Усходзе (!), то рана або позна ўвойдзе ў канфлікт з недэмакратычнымі рэжымамі за Бугам (забыў пан Падольскі, як нядаўна ў недыктатарскай Польшчы «адмяцелілі» школьнікаў дубінкамі). Ва ўсёй гэтай справе яго непакоіць толькі адно: заходні рэзананс. Можа, які-небудзь амерыканскі сенатар выкарыстае польска-беларускі канфлікт як аргумент супраць прыняцця Польшчы ў НАТО.

Такім чынам, Польшча рвецца ў НАТО і ЕС так, што гатова выскачыць з уласных штаноў, даказваючы, што менавіта яна больш за ўсё падыходзіць для ролі натаўскага фарпоста на Усходзе. У сваім прагіненні перад Вашынгтонам яе лідэры, забыўшы, што на польскай зямлі зажылі яшчэ не ўсе раны другой сусветнай вайны, дайшлі да таго, што аднымі з першых падтрымалі намер амерыканцаў бамбардзіраваць Ірак. Што ж, як кажуць, Бог усё бачыць.

У Беларусі няма антыпольскіх настрояў. У нас захоўваюцца паважлівыя адносіны да палякаў, не прынята ўсё валіць у адну кучу. Міцкевіч, Манюшка, Рэймант, Матэйка, Івашкевіч, Вайда, Каваляровіч, Брыльска шануюцца, як і раней. Шматмільярдныя сумы да святкавання 200-годдзя А.Міцкевіча выдзеліла менавіта дзяржава. Ушаноўваюцца заслугі герояў баёў пад Леніна і Монтэ-Касіна. Як заўсёды, папулярны польскі фільм. У беларускай прэсе не з'явілася ніводнай карыкатуры або публікацыі, якія закраналі б Аляксандра Квасьнеўскага ў сувязі з яго дыпломнымі або мэблева-рэкламнымі непрыемнасцямі.

Аднак беларусаў зусім не прываблівае перспектыва, пры якой, паглядзеўшы на заходні бераг Буга, убачыш не твар суседа, а спіну, ды яшчэ не польскую, ды яшчэ і з аўтаматам. А ў гэтым выпадку, зусім відавочна, што пад прыкрыццём палітычнай рыторыкі Польшча можа стаць бар'ерам на шляху зносінаў дзяржаў і народаў.

Няўдзячная роля. Калі здарыцца, што з палякаў пабудуюць раздзяляльную сценку ў цэнтры Еўропы, калі такую цану за Бугам гатовы заплаціць за прыняцце ў ЕС і НАТО, гісторыя польскай знешняй палітыкі дапоўніцца непрыгляднай главой. Спадабаецца гэта ці не спадабаецца Варшаве, але непазбежна будзе праведзена паралель з дзеяннямі польскіх легіёнаў у Іспаніі ў пачатку мінулага стагоддзя, дзе яны, напісаўшы на сваім сцягу ідэалы барацьбы за свабоду сваёй дзяржавы, душылі свабоду іспанскага народа. І не толькі іспанскага.

Архітэктарам такой палітыкі варта было б помніць, што такія сценкі рана або позна разбураюцца і пакідаюць аб сабе і будаўніках вельмі дрэнныя ўспаміны.

**Аляксандр АЛЯКСЕЕЎ, БЕЛТА.**

*ПОГЛЯД*

## ВЯСНА-98: ЧАКАННІ І ІЛЮЗІІ

На працягу апошніх трох гадоў надыход вясны прыносіў у палітычнае жыццё Беларусі прыкметнае ажыўленне. Варта нагадаць хаця б перадрэферэндумныя страсці ў сакавіку-красавіку 1995 года, або дзве інтэграцыйныя кампаніі (па стварэнню спачатку беларуска-расійскага Супольніцтва, а потым Саюза), якія прыпалі якраз на леташнюю і пазалеташнюю вясну. Ці прадоўжыць гэту тэндэнцыю вясна ўзору 1998 года?

Бурных падзей сёлета не прадбачыцца. І правая, і левая апазіцыя перажывае глыбокі крызіс. Часы, калі Беларускі народны фронт быў здольны вывесці на вуліцы пад сваімі сцягамі паўсотні тысяч прыхільнікаў, падобна, засталіся ў мінулым. Гэтак жа мінулі лепшыя часы і для камуністаў. Трэшчына ў камуністычным руху, якая ўтварылася паўтара года таму, напярэдадні лістападаўскага рэферэндуму 1996 года, не толькі захавалася, але і паглыбілася. Сярод камуністычных лідэраў у цяперашняй Беларусі няма асобы, якая б здольная была адчуваць левыя прарасійскія лозунгі лепш, чым гэта робіць прэзідэнт. А спробы аб'яднаць камуністычны электарат на апазіцыйнай у адносінах да прэзідэнта Лукашэнкі платформе і ўвогуле бесперспектыўныя — вопыт Васіля Новікава і Сяргея Калякіна яскрава пра гэта сведчыць.

У сёлетнім сакавіку нямала дат, якія тэарэтычна маглі б стаць падставай для масавых апазіцыйных выступленняў і пад чырвонымі, і пад бела-чырвона-белымі сцягамі. 13—15 сакавіка спаўняецца 100 гадоў з часу правядзення ў Мінску I з'езда РСДРП, які стаў калыскай КПСС. Яшчэ дзесяць гадоў таму спецыяльна да гэтай даты адной з вуліц у цэнтры беларускай сталіцы было прысвоена імя Пятра Румянцава — уладальніка зялёнага драўлянага дома на беразе Свіслачы, дзе нелегальна сабраліся стваральнікі РСДРП. Сёлета стагоддзе камуністычнага з'езда будуць адзначаць толькі камуністы. Робіцца спроба сабраць прадстаўнікоў больш як тузіна кампартый, што ўтварыліся на абломках колішняй КПСС. Аднак да адзінства постсавецкім камуністам гэтак жа далёка, як і іх колішнім папярэднікам.

15 сакавіка — чацвёртая гадавіна Канстытуцыі 1994 года. Гэты дзень дагэтуль пазначаны ў календары чырвоным колерам, хоць краіна ўжо больш як год жыве паводле Канстытуцыі ўзору 1996 года. Галоўны абаронца Канстытуцыі, створанай у 1994 годзе, — Вярхоўны Савет 13-га склікання. Ступень яго рэальнай сілы, верагодна, і будзе прадэманстравана 15 сакавіка.

Нарэшце, 25 сакавіка — 80-годдзе Беларускай Народнай Рэспублікі — першай спробы (у новай гісторыі) стварыць незалежную беларускую дзяржаву. Менавіта на гэты дзень у апошнія гады прыпадалі найбольш масавыя акцыі правай апазіцыі — Народнага фронту і ягоных саюзнікаў. Робяцца спробы паўтарыць нядаўні вопыт і цяпер. Аднак малаверагодна, што ў сённяшніх умовах гэта магчыма. Па-першае, у грамадскай свядомасці ўжо няма таго адчування небяспекі страты дзяржаўнай незалежнасці, якое было год і два гады таму і якое клікала мінчан на вуліцу. Па-другое, сваю ролю адыгралі жорсткія меры ўладаў у адносінах да ўдзельнікаў масавых акцый пратэсту (асабліва гэта паўплывала на палітычную актыўнасць студэнтаў). Патрэцяе, адбіваецца і стомленасць, расчараванне, страта веры тых прыхільнікаў нацыянальна-дэмакратычнай ідэі, спадзяванні якіх за мінулыя дзесяць гадоў беларускія дэмакраты не спраўдзілі: да ўлады прыйсці не здолелі і страцілі нават тое нямногае, што само ўпала ім у рукі ў далёкім ужо 1991 годзе.

Гэту тэндэнцыю ўлавіў лідэр БНФ Зянон Пазняк, які нядаўна даслаў з эміграцыі кіраўніцтву Фронту ліст з папярэджаннем: «Яшчэ паўгода такога паралічу — і Беларускі народны фронт як сур'ёзная апазіцыйная сіла перастане існаваць і будзе выцеснена на перыферыю грамадскага жыцця».

Па ўсім відаць, што працэс гэты не толькі пачаўся, але ўжо ўступае ў сваю заключную стадыю. Прапанова Зянона Пазняка аб узмацненні ролі Рады БНР у эміграцыі — гэта, па сутнасці, прызнанне ўласнага паражэння.

Хутчэй за ўсё, нас чакае спакойная ў палітычным плане вясна: апазіцыя не прынясе уладам прыкметных клопатаў. Куды больш значным выпрабаваннем стане вясна сельскагаспадарчая і звязаны з яе прыходам непазбежны рост інфляцыі, якую на ўрад ці ўдасца ўтрымаць у межах 2 працэнтаў. Але да гэтых часовых цяжкасцяў беларускае насельніцтва за апошнія гады прывыкла.

**Валянцін ЖДАНКО.**

**Пракуратура рэспублікі выказвае глыбокае спачуванне Старшыні Вышэйшага Гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь Бойку У. В. з прычыны трагічнай гібелі БРАТА.**

# БМЗ—«Фёст
# мост — у б

**У час апошняга наведвання горада беларускіх металургаў Жлобіна нам пашчасціла прысутнічаць на цырымоніі падпісання дагавора з вядомай у свеце аўстрыйскай фірмай «Фёст-Альпіне». Знакамітая падзея адбылася 22 кастрычніка мінулага года. Знамянальна тое, што менавіта гэта фірма ў пачатку васьмідзесятых гадоў стала генеральным падрадчыкам пры ўзвядзенні волата айчыннай металургіі — БМЗ. У наступным годзе спаўняецца пятнаццаць гадоў з дня яго ўводу ў эксплуатацыю.**

**І хоць па сённяшні дзень завод, які ўжо амаль дзевяць гадоў узначальвае кандыдат тэхнічных навук Юрый Феакцістаў, упэўнена нарошчвае вытворчы патэнцыял, заваёўвае ўсё новыя рынкі ў све-**



Бэлька асцыляцыі нарэшце ўстаноўлена на месца.



Механік па рамонту ЭСПЦ Уладзімір ІВАНОЎ.



Зваршчык Васіль КАЧАНАЎ.

НА БЕТОННАЙ падлозе нерухома ляжала вялізная бэлька. Як растлумачылі нам, на яе потым будуць манціравацца механізмы асцыляцыі. Таму і сама бэлька называецца асцыляцыйнай. Гэту трыццацісямітонную аграмадзіну трэба ўзняць на 13,5 метра і зманціраваць з дакладнасцю сотых доляў міліметра.

Брыгадзір Мікалай Максіменка ўзмахвае рукой. У тое ж імгненне тоўстыя сталёвыя тросы на маставым кране пачынаюць плаўна рухацца. І вось ужо бэлька завісае ў паветры. Павольна яна ўздымаецца ўсё вышэй і вышэй.

Цяжка сказаць, што адчувае ў гэтыя імгненні машыніст маставога крана Надзея Каровіна. Яна адна з самых вопытных кранаўшчыкоў, а таму менавіта ёй давераны гэты адказны пад'ём. Кран працуе, што называецца, на мяжы дапушчальнага, бо яго грузападымальнасць — 40 тон, а вага грузу — 37 тон. Да таго ж навокал усё ў суцэльным перакрыжаванні калон і бэлек, а таму прасторы для манеўру амаль няма. Не дай Божа, гэта махіна за нешта зачэпіцца.

Праходзіць яшчэ некалькі хвілін. Каб бэлька залішне не хісталася, да яе прывязаны страхавачныя канцы, за якія трымаюцца рамонтнікі. Кожны рух дакладна разлічаны.

А ў памяці нядаўняя размова з дырэктарам па знешніх эканамічных сувязях БМЗ Генадзем Шыленкам. З якой гордасцю апавядаў ён пра справы і клопаты калектыву, асабліва што датычыцца асваення новых рынкаў!

— Ужо сёння дзесяткі краін свету ахвотна набываюць нашу прадукцыю, — зазначыў Генадзь Якаўлевіч. — Мы пастаўляем пракат, арматуру і корд у Германію, Аўстрыю, Францыю, Англію, Бельгію, Галандыю, Швецыю, Нарвегію, Венгрыю, Балгарыю. Пакрысе асвойваем рынкі Туніса, Марока... Патэнцыяльнымі спажыўцамі нашай прадукцыі з'яўляюцца Ганконг, Тайвань, Кітай, Філіпіны, Сінгапур і многія іншыя краіны Азіі. Неяк атрымалі заказ з ЗША на пастаўку туды 1000 тон пракату. Усё б нічога, але замест традыцыйных міліметраў і сантыметраў там дыяметр вымяраецца ў дзюймах. Справіліся і з гэтым не зусім звычайным заказам. Цяпер адтуль паступаюць новыя заяўкі, у тым ліку і на корд. А нядаўна паступіла цікавая прапанова стварыць сумеснае прадпрыемства. Цяпер распрацоўваюцца неабходныя дакументы. А ўвогуле ў Еўропе ўжо створаны і працуюць два нашы СП. Добрыя адносіны ўсталяваліся і з Егіптам. Там з вялікай павагай ставяцца да беларускіх металургаў, нашай прадукцыі. Нярэдка ў месяц адгружаем туды больш як 15 тысяч тон арматуры і літай загатоўкі. Цяпер у гэтай краіне працуюць нашы спецыялісты. Яны дапамагаюць арабам у будаўніцтве і асваенні металургічных вытворчасцяў.

Здавалася б, пры такім размаху можна, як кажуць, спачываць на лаўрах. Завод сам па сабе — унікальная вытворчасць, пабудаваная па апошняму слову навукі і тэхнікі. Што яшчэ трэба?

— Навука і тэхніка не стаяць на месцы, — усміхаецца Генадзь Якаўлевіч. — Апошнім часам з'явілася нямала новых распрацовак у металургічнай справе. А гэта — павышэнне якасці прадукцыі, а значыць і новыя рынкі збыту. Ды і механізмы старэюць. А таму і ўзнікла патрэба ў мадэрнізацыі вытворчасці. І яе вырашылі пачаць з рэканструкцыі машыны бесперапыннага разліву сталі.

Сёння ой як няпроста не толькі будавацца, але нават праводзіць рэканструкцыю. Бо на ўсё патрэбны валютныя сродкі. І немалыя. Узяць той жа кантракт на мадэрнізацыю машыны бесперапыннага разліву сталі. Ён ацэнены недзе ў 9,2 мільёна рублёў. Няпроста ў наш час знайсці такую процьму грошай! І вось кіраўніцтва завода дамовілася з аўстрыйскім банкам, які і адкрыў крэдытную лінію для закупу абсталявання, якое ў сваю чаргу будзе пастаўляць аўстрыйская фірма «Фёст-Альпіне». Іх жа спецыялісты ажыццяўляюць кантроль за правядзеннем рэканструкцыі. У адрозненне ад будаўніцтва завода, калі ён здаваўся «пад ключ», дзе ўсе работы выконвалі замежныя рабочыя і спецыялісты, цяпер яны ажыццяўляюць толькі нагляд за ходам мантажу вузлоў і агрэгатаў. Манціруюць жа абсталяванне нашы рамонтнікі, а таксама спецыялісты электра-сталеплавільнага цэха, які ўзначальвае Міхаіл Гуляеў. Дарэчы, на перыяд рамонтных работ ён з'яўляецца тут старшым, непасрэдна адказвае за арганізацыю ўсяго рамонтнага канвеера.

Пацікавіліся, а як жа завод будзе разлічвацца з аўстрыйскім «Эрстэ-банкам» за прадастаўлены крэдыт? Аказваецца, банк гатоў узяць прадукцыю, што будзе рэалізавана па існуючых у свеце цэнах, вырučаныя сродкі і пойдуць на пагашэнне крэдыту. Адначасова заключаны кантроль з



Генеральны дырэктар БМЗ Юрый Феакціста



Дырэктар па знешніх эканамічных сувязях Генадзь ШЫЛЕНКА.

трыма італьянск
рэканструкцыю
ніравання ў цэх
ду. Тут будуць
механізмы па г
тунню высокатр
ду. Агульны ко
ацэнены ў 6,7 м
раў. Работы пла
тут недзе ў сака
шыць — у ліпен
ракт, які таксама
ны з аўстрый
«Фёст-Альпіне»,
канструкцыяй ст
печы № 3, а та
нізацыяй стана
ставіцца задача
плаўкі. Калі р
плаўка займала
гадзіны, то пасл
рэканструкцыі п
цэс зойме недз
лін. У выніку пра
печы ўзрасце
20—25 працэнта



Група заводскіх і аўстрыйскіх спецыялістаў вядуць ажыўленую дыскусію.

# КІРМАШ

**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 7 (125)**


**Покупаем:**
**масло, сыр, яйцо и др. с/х продукцию.**
Погашаем задолженность за энергоносители.
**Тел./факс:**
**236-69-24, 236-04-03.**

---

***Государственное предприятие «Белорусский межбанковский расчетный центр» приглашает принять участие в тендере на поставку сейфов.***

ПАКЕТ ТЕНДЕРНЫХ ДОКУМЕНТОВ
МОЖНО ПОЛУЧИТЬ ПО АДРЕСУ:
Г. МИНСК, УЛ. КАЛЬВАРИЙСКАЯ, 7, КОМ. 605.

*Просим доставить ответ, оформленный в виде коммерческого предложения и проект контракта в запечатанном виде Вашим курьером в срок до 10 марта 1998 г. по вышеуказанному адресу.*

*Предложения и дополнительные материалы, поступившие после указанного срока, к рассмотрению не принимаются.*

**Справки можно получить по телефонам: 239-91-66, 223-15-00.**

---

**Даведкі аб размяшчэнні рэкламы ў «ЗВЯЗДЗЕ»**
**Тэл. 232-31-98**

**Кошт прыватных платных аб'яў і віншаванняў — 60 тыс. руб. Аплата на р/р 3012210270016 у КБ «Белбізнесбанк» у г. Мінску, код 739.**

---

НПП "ФЕЛИЗ"
(генеральная лицензия №13 от 12.07.94г.)
официальный дилер АО УАЗ
**ПРОВЕРЕНО ВРЕМЕНЕМ**
**АВТОМОБИЛИ**
**УАЗ ГАЗ**
100% комплектация и доукомплектация
**ВАЗ ПАЗ**
Гарантийное обслуживание.
Т. (017) 239-30-27 т./ф.232-53-23
Услуги посредников оплачиваются

---

*Куплю мотаблок МТЗ.*
**Тэл. (8-017) 276-45-31.**

---

**АВТОМОБИЛИ**
**ВАЗ** -043, -053, -06, -061, -07, -093, -093i, -099, -099i, -213, 2110, -2131(5-двер."КЕДР").
**"Волга"** 3102, 3110
**"Газель"** 3302, 2705, 32210 **ГАЗ**
**УАЗ** 31512(пасс.), 31514,31519(пасс), 3962(санит),3741(фургон), 3909, 3909-013(фермер).
**ПРИЦЕПЫ "ЗУБРЕНОК"**
Низкие цены. Гарантийное обслуживание.
Антикоррозийная обработка, установка сигнализации и дополнительного оборудования.
Возможен бартер на молочные и мясные продукты.
Автомагазин и стоянка рядом.
**Тел./факс (017) 226-25-97, тел. (017) 226-29-72.**

---

ООО "ИНАВТОМАРКЕТ"
**ЛИКВИДИРУЕТСЯ**
Претензии принимаются в течении двух месяцев

---

## СВЯТА КНІГІ

**У Рэспубліканскім выставачным цэнтры завяршыў сваю работу V Мінскі міжнародны кніжны кірмаш, у якім узяло ўдзел больш як 300 кнігавыдавецкіх і паліграфічных фірмаў з краін Садружнасці, Балтыі, Польшчы, Германіі, Вялікабрытаніі, Францыі.**

Нагадаем, што першы Мінскі кніжны кірмаш адбыўся ў 1994 годзе, калі адзіная эканамічная прастора былога СССР канчаткова распалася, у тым ліку і ў галіне кнігавыдання. Для аднаўлення сувязяў паміж выдаўцамі і кнігагандлярамі цяпер ужо суверэнных дзяржаў СНД, прыбалтыйскіх і іншых краін Еўропы і задумаўся гэты міжнародны кірмаш у Мінску — сталіцы СНД.

У якасці арганізатараў сёлетняга кірмашу выступілі Дзяржаўны камітэт па друку Рэспублікі Беларусь, Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў, паліграфістаў і кнігараспаўсюджвальнікаў, іншыя арганізацыі. Ад альбомаў да энцыклапедычнай літаратуры — такі спектр прадстаўленай на кірмашы літаратуры. У рамках гэтага мерапрыемства адбыліся шматлікія прэзентацыі розных выданняў, сустрэчы з іх аўтарамі, нацыянальныя дні кнігі, падпісаны таксама шэраг міжурадавых пагадненняў. Усё гэта пацвердзіла словы намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Івана Пашкевіча, які сказаў, што Мінскі міжнародны кніжны кірмаш — сапраўдная падзея ў культурным жыцці краіны.

**Вольга РАМАНЮК.**

---

## ПРАДАЕЦЦА

❑ Дом з г/пабудовамі, участак 40 сотак.
Тэл. у Нароўлі 2-29-72.

❑ Дом з г/пабудовамі ў в. Атрубак Лагойскага р-на, аленевыя рогі.
Тэл. 258-57-45.

❑ Радыёмагнітола «Ореанда» б/к; прайгравальнік з калонкамі «Радиотехника», у добрым стане.
Тэл. 265-63-92.

❑ Дом, абложаны цэглай з г/пабудовамі, участак 13 сотак у Вілейцы.
Тэл. 5-50-71 у раб. час.

❑ Мікрааўтобус грузавы «Жук» (Польшча) 1990 г. в.
Тэл. (8-017) 251-06-48.

❑ «Масквіч-2140» 1984 г. в., капрамонт у 1997 г., газ-бензін — 900 у. а.
Тэл. у Слоніме 4-22-26.

❑ 2 катэджы ў Салігорскім і Любанскім раёне, або мяняю на Мінск.
Тэл. 211-72-38.

❑ «Опель-Аскона» 1983 г. в., 1,6 л., бензін, у добрым стане.
Тэл. у Вілейскім раёне 6-54-33.

❑ Кватэра 2-пакаёвая ў г. Мядзелі.
Тэл. у Мядзелі: 5-40-66; 5-43-93.

❑ «УАЗ-452» (фургон) у д/стане.
Тэл. у Слуцку 2-07-86, пасля 18.00.

❑ Дом з г/пабудовамі і садам; маладая карова ў в. Старына Стаўбцоўскага р-на.
Тэл. 3-46-53.

❑ Дом з г/пабудовамі, участак 20 сотак у в. Каменка Уздзенскага р-на.
Тэл. у Уздзе 5-47-77.

❑ Дом у г. Паставы, вул. Ленінская, 86, або мяняю на аўтамабіль.
Тэл. (8-252) 2-55-10.

❑ «ВАЗ-21053» 1989 г. в.
Тэл. (8-297) 2-29-61.

❑ Дом, г/пабудовы, участак 25 сотак, прыродны газ, у Нясвіжскім раёне — 4500 у. а.
Тэл. 5-83-07.

❑ Пральная машына «Ністру» — 550 тыс. руб.
Тэл. 216-86-24.

❑ Мотаблок, а/прычэп, халадзільнік.
Тэл. (8-01592) 2-16-60 (раб.), 9-65-56 (хатні).

❑ Стол кухонны ў добрым стане; фотаап. «Смена», эл. рукавік ад пральнай машыны «Аўрыка».
Тэл. у Мінску 265-63-92.

❑ Кватэра 3-пакаёвая, 4 паверх, у цэнтры Мядзела.
Тэл. (8-297) 5-45-32.

❑ Дом-дача, новы лес у в. Мядведня Старадарожскага раёна.
Тэл. у Слуцку 4-24-12.

❑ Мотаблок з прычэпам у в. Аброва Івацэвіцкага раёна.
Тэл. у Івацэвічах 2-20-39, пасля 18.00.

❑ Зруб з пласцін 5х5, вышыня 2,5 м з кроквамі і інш. зрублены ў «чысты вугал».
Тэл. у Шумілінскім раёне 2-76-46.

❑ Дом цагляны, новы, 2-павярховы, 3 узроўні, у пас. Б. Ухалода.
Тэл. (8-01777) 7-72-98.

❑ «Вакол свету» (300 экз. за 25 гадоў), «Геаграфія ў школе» — 200 экз. за 32 гады.
Тэл. у Лідзе 2-53-25.

❑ Бензапіла «Урал» новая і з/ч да «Дружбы».
Тэл. (8-217) 3-46-75.

❑ «ГАЗ-53» дызель, у добрым стане — 1600 у. а.
Тэл. (8-02155) 3-34-59.

❑ Матацыкл «ІЖ» з каляскай — 230 у.а.; калёсы на гумавых колах; дом у Хойніках з г/пабудовамі, сад, гараж, участак.
Тэл. (8-01592) 3-63-92.

❑ Дом цагляны (маецца каналізацыя, водаправод).
Тэл. у Салігорску 2-15-55.

❑ Авечыя шкуры, выпрабленыя, пафарбаваныя і не, машына вязальная 1-фантурная «Сільвер».
Тэл. (8-296) 2-10-88.

❑ Кватэра 1-пакаёвая ў Гомелі, 2-павярховая.
Тэл. (8-0232) 50-68-63.

❑ Дом з г/пабудовамі, сад, калодзеж, участак 50 сотак у г. п. Урэчча Любанскага раёна.
Тэл. (8-294) 5-13-60.

❑ «МТЗ-80» б/к у выдатным стане, цана дагаворная.
Звяртацца: 222601, в. Еськавічы, вул. Дзяржынскага, 62 Нясвіжскага р-на Мінскай вобласці.

❑ Дом з г/пабудовамі, участак 10 сотак, сад у Багушэўску.
Тэл. (8-235) 2-89-04.

❑ Катэдж 4-пакаёвы з выгодамі ў в. Слабада Ушацкага раёна.
Звяртацца: 211800, г. Глыбокае, вул. Мінская, д. 74.

❑ Універсальная машына для вымешвання цеста, узбівання крэму ці змешвання любых саставаў.
Тэл. 236-21-36.

---

Ликвидируется **общество «Гуманитарный фонд содействия развитию Содружества Независимых Государств».** Претензии принимаются в течение двух месяцев.

---

ПК ООО «БДМ» ликвидируется
Претензии принимаются в течение месяца.
Тел. (017) 256-08-88.

---

Предприниматель **Марченко Н. Л. (свидетельство № 010143)** прекращает свою деятельность.

---

## АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

**Аб. № 619.** Сімпатычны пагранічнік, 20/182/76, жадае пазнаёміцца і знайсці сяброўку па перапісцы (18—20 гадоў). Пажадана фота. Адкажу ўсім. Сваё фота абяцаю.

**Аб. № 620.** Другі сімпатычны пагранічнік, 19/177/74, таксама жадае пазнаёміцца з дзяўчынай па перапісцы. Фота і адказ абяцае.

**Аб. № 621.** Пазнаёмлюся з мужчынам непітушчым і не судзімым. Аб сабе: 52 гады, 158/58, жыву ў раённым цэнтры.

**Аб. № 622.** Дзяўчына (узрост 22 гады, веруючая, праваслаўная) жадае пазнаёміцца са студэнтам духоўнай семінарыі. Жыву ў горадзе. Падрабязнасці пры перапісцы.

**Аб. № 623.** Мужчына без шкодных звычак жадае пазнаёміцца для стварэння сям'і з адзінокай жанчынай сярэдняга целаскладу, несудзімай. Аб сабе: 65/165/76, для жыцця усё неабходнае маецца, астатняе пры перапісцы.

**Аб. № 624.** Пазнаёмлюся з жанчынай для стварэння сям'і. Мне 50 гадоў, рост 183, вага 76. Пішыце, адкажу ўсім.

**Аб. № 625.** Мужчына, 43/170, беларус, пазнаёміцца з жанчынай для стварэння сям'і, беларускай да 40 гадоў, рост 170, дзіця не перашкода.

**Аб. № 626.** Сімпатычны адукаваны мінчанін без ш/звычак, 20 гадоў, рост 180, пазнаёміцца з прыгожай адукаванай мінчанкай ростам ад 165, да 23 гадоў, згодный на сустрэчы і сяброўства.

**Аб. № 627.** Пазнаёмлюся з мужчынам да 40 гадоў без шкодных звычак і матэрыяльных праблем для стварэння сям'і. З месцаў пазбаўлення волі не пісаць. Пажадана фота. Аб сабе: 35/168, бландзінка, матэрыяльна забяспечаная. Падрабязнасці ў лісце.

***P.S.*** *Паважаныя чытачы! Для атрымання адраса абанента прысылайце канверт са сваім адрасам.*

---

## РОЗНАЕ

● Куплю трактар «МТЗ», «Т-25» б/к.
Тэл. (8-017) 258-34-64.

● Куплю жоўцевыя камяні.
Тэл. у Смаргоні 3-26-78.

● Мяняю 1-пакаёвую кватэру ў г. Джанкой (Крым) на Гомель, Мінск, ці прадам.
Тэл. (8-0232) 48-94-78.

● Маецца вельмі старадаўняя скрыпка, расклееная, але не ўся.
Тэл. (8-219) 3-13-01.

● Куплю швейную машыну «Зінгер».
Тэл. (8-017) 251-06-48.

● Прадам швейную машыну «Зінгер» для тоўстых швоў.
Тэл. у Слоніме — 4-22-26, у Брэсце — 22-32-54.

● Куплю трактар «МТЗ-82УК» б/к, «Т-16(25)».
Тэл. (8-017) 251-06-48.

● Куплю старыя фотаапараты, аб'ектывы, значкі.
Тэл. 253-24-41.

● Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў г. Шчучыне на 2-пакаёвую ў Баранавічах або каля Мінска. Магчымы варыянты.
Тэл. у Шчучыне 2-49-74.

● Мяняю 1-пакаёвую кватэру ў г. Смаргоні на 1-пакаёвую ў Маладзечне.
Тэл. у Смаргоні 3-28-76.

● Куплю «Т-25» у рабочым стане.
Тэл. (8-02357) 3-22-63.

● Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў г. Валожыне на кватэру ў Вілейцы, Докшыцах ці Глыбокім.
Тэл. у Валожыне 5-52-89, да 17.00.

● Прадам 50 юбілейных рублёў СССР па 35 тыс. за шт.
Тэл. у Дубровенскім р-не 2-61-64.

● Прадам упакоўку лякарства «Акулавы храшч».
Тэл. (8-276) 6-10-46, увечары.

● Мяняю палову дома (3 км ад Смаргоні) з г/пабудовамі, участак 15 сотак на кватэру ў Маладзечне ці Смаргоні.
Тэл. у Смаргоні 3-68-75 (раб.), 3-61-16, пасля 18.00.

● Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў Яраслаўлі на кватэру ў Мінску.
Звяртацца: 222910, г. Ст. Дарогі, Галоўпаштамт, а/с № 14, Мінская вобл.

● Мяняю «Масквіч» і дом у г. Васілевічы на 2-, 3-пакаёвую кватэру.
Звяртацца: 247502, в. Свірыдавічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобл., Краўчанка.

---

## Віншаванні

*Сардэчна віншую з 80-годдзем* ***Зінаіду Мікалаеўну ПРОХАРЧЫК*** *з в. Голацк Пухавіцкага раёна. Жадаю здароўя, бадзёрасці, шчасця.*
**Сац. работнік Анішчанка В. В.**

***САРДЭЧНА ВІНШУЮЦЬ З 75-ГОДДЗЕМ:***
***Вольгу Адамаўну ЕРМАЛІЦКУЮ*** *з п. Бязверхавічы. Зычым моцнага здароўя, бадзёрасці і даўгалецця.*
**Дзеці і ўнукі,** *г. Светлагорск.*
***Васіля Васільевіча ЧЫЖАЎКУ*** *з в. Лясок Карэліцкага раёна. Жадаем здароўя моцнага, шчасця вялікага, бадзёрасці.*
**Жонка, дзеці, унукі,** *г. Навагрудак.*

*Сардэчна віншуем з 70-годдзем* ***Яўгенію Сямёнаўну ВАРАНЕЦКУЮ.*** *Жадаем здароўя, бадзёрасці, шчасця.*
**Матусевіч, Каніўчанка,** *г. Крупкі.*

*Віншуем з 74-годдзем* ***Уладзіміра Аляксандравіча БАЖКО*** *з в. Харосіца Навагрудскага раёна. Жадаем радасці, бадзёрасці і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*
**Дзеці, унукі,** *г. Мінск.*

***Антона Якаўлевіча і Людмілу Гаўрылаўну ІВАШКАЎ*** *віншую з залатым вяселлем. Здароўя і даўгалецця вам.*
**Навіцкая В. А.,** *г. Баранавічы.*

*Віншуем* ***Аляксандру Уладзіміраўну і Віктара Яўгенавіча АЎДЗЕЕНКАЎ*** *з залатым вяселлем. Жадаем здароўя, шчасця.*
**Дзеці, унукі,** *п. Нарач.*

***Зінаіду Іванаўну і Уладзіміра Людвігавіча САДОЎСКІХ,*** *дарагіх і любімых бацькоў, віншуем з сярэбраным вяселлем. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, радасці ў жыцці.*
**Сям'я Бандарыкаў,** *г. Мядзел.*

*Віншуем з 40-годдзем сумеснага жыцця* ***Зінаіду Сяргееўну і Міхаіла Канстанцінавіча ШУТАЎ*** *з в. Калодзежы Чэрвеньскага раёна. Ад усёй душы жадаем здароўя, любові і дабра.*
**Сыны, нявесткі, унукі.**

---

# ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ** звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

**По слядах нашых выступленняў**

# Мінскі завод шампанскіх він: сігнал «SOS» застаецца без адказу

**У канцы мінулага года «Звязда» падрабязна знаёміла сваіх чытачоў з няпростай фінансавай сітуацыяй, якая склалася на Мінскім заводзе шампанскіх він, пасля таго як МЗШВ узяў у Белзнешэканомбанку валютны крэдыт у суме 3 мільёнаў амерыканскіх долараў пад 26 працэнтаў гадавых для закупкі ў Малдове вінаматэрыялаў (№ 198 ад 28 кастрычніка 1997 г. — «Каму выгадна патапіць Мінскі завод шампанскіх він?» і № 213-214 ад 18 лістапада 1997 г. — «Быць ці не быць беларускаму шампанскаму? Відаць, быць»).**

ЗГОДНА З ЗАКЛЮЧАНЫМ ДАГАВОРАМ, прадпрыемства павінна было вярнуць банку пазыку да 31 студзеня 1998 г. Інакш заводу «свяцілі» вялікія штрафныя санкцыі і наогул пагражала даўгавая яма.

Кіраўніцтва завода, каб не дапусціць яго разарэння, кінулася ў многія дзяржаўныя інстанцыі для неадкладнага вырашэння пытання па выплаце валютнай банкаўскай пазыкі. Напачатку здавалася, што лёд крануўся. У Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання РБ з удзелам адказных работнікаў канцэрна «Белдзяржхарчпрам» і ўпраўлення гандлю Мінгарвыканкама адбылася пашыраная нарада, на якой абмяркоўваўся далейшы лёс МЗШВ. Былі прапанаваны два варыянты вырашэння праблемы: дапамагчы заводу канвертаваць неабходную рублёвую суму ў амерыканскія долары і выплаціць крэдыт, а ў выпадку адсутнасці валютных сродкаў унутры рэспублікі дазволіць прадаць за межы Беларусі 1.500.000 бутэлек шампанскага і выручаную суму зноў-такі накіраваць на пагашэнне банкаўскай пазыкі і працэнтаў па ёй. На жаль, гэтыя прапановы па розных прычынах не былі ўвасоблены ў жыццё. Варыянт з экспартам беларускага шампанскага напярэдадні навагодніх святаў быў малапрыгодным ужо толькі па той прычыне, што МЗШВ павінен быў выканаць прэзідэнцкае распараджэнне аб забеспячэнні ўнутранага рынку гэтым пеністым напіткам. На прадпрыемстве патрабаванні кіраўніка дзяржавы былі неадкладна выкананы, дзеля чаго амаль два месяцы працавалі без выхадных, адпускаючы сваю прадукцыю толькі гандлёвым арганізацыям рэспублікі. (Праўда, айчынны гандаль і пры такіх аб'ёмах паставак умудраўся ствараць штучны дэфіцыт шампанскага. — **Аўт. У. З.**)

Між тым, пакуль сталічныя шампаністы запаўнялі беларускі рынак таварам, у іх захоўвалася надзея на станоўчае вырашэнне праблемы. Першы віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч дае Нацыянальнаму банку РБ даручэнне № 06/217-1153 ад 27.11.1997 г. аб аказанні заводу дапамогі ў канвертацыі грашовых сродкаў, на што Нацбанк пісьмом ад 03.12.97 № 31010/5655 адмовіў у вырашэнні ўказанага пытання.

Пазней, 19 снежня 1997 г., Пётр Пракаповіч звяртаецца да:

Генадзя Сяргеевіча АЛЕЙНІКАВА, старшыні Нацбанка РБ:

«Падатковыя паступленні ў бюджэт па заводу шампанскіх він складуць у 1997 годзе больш як 300 мільярдаў рублёў. Нельга дапусціць зніжэння вытворчасці шампанскага ў 1998 годзе і задавальнення патрэб унутранага рынку ў ім.

Прашу яшчэ раз разгледзець і адшукаць магчымасці канвертацыі сродкаў завода».

Георгія Аляксеевіча ЯГОРАВА, прэзідэнта «Белзнешэканомбанка»:

«Прашу разгледзець магчымасць адтэрміноўкі валютнага крэдыту да 1 лютага 1998 года. Аб прынятым рашэнні інфармуйце Савет Міністраў».

Івана Пятровіча ШАКОЛЫ, міністра сельскай гаспадаркі РБ:

«Прашу ўнесці прапановы па павелічэнню экспарту шампанскіх він у 1998 годзе для вяртання крэдытаў і закупкі неабходнай сыравіны».

У пачатку студзеня 1998 года, за тры тыдні да заканчэння тэрміну вяртання валютнага крэдыту, дырэктар Мінскага завода шампанскіх він Тадэвуш Булдык накіроўвае ў адрас Белзнешэканомбанка пісьмо. Вось некаторыя вытрымкі з яго.

«На нарыхтоўку сыравіны выдзелена пазыка, запазычанасць па якой 01.01.1998 г. складае 1.998,8 тыс. дол. ЗША з тэрмінам пагашэння студзень 1998 года.

Цяпер завод адчувае цяжкасці з пагашэннем крэдыту. Асноўнай прычынай з'яўляецца змяншэнне экспарту прадукцыі, якая выпрацоўваецца Мінскім заводам шампанскіх він. Асноўныя пакупнікі прадукцыі сканцэнтраваны ў Расійскай Федэрацыі, у якіх ёсць праблемы з набыццём акцызнай маркі РФ для Рэспублікі Беларусь. Таксама зніжэнне падаткаабкладання ў Расійскай Федэрацыі (змяншэнне акцызаў на шампанскае) зрабіла нявыгадным набыццё прадукцыі завода ў параўнанні з прадукцыяй расійскіх вытворцаў. Вырасла цэнавая канкурэнцыя як з боку расійскіх вытворцаў, так і з боку Рыжскага завода шампанскіх він і заводаў Малдовы, якія прапаноўваюць сваю прадукцыю па больш нізкіх цэнах з-за больш нізкага кошту сыравіны (прыкладна на 30 працэнтаў) і адсутнасці акцызных падаткаў. Ва ўмовах, якія склаліся, кіраўніцтва завода неаднаразова звярталася ва ўрад Рэспублікі Беларусь аб зніжэнні акцызнага падатку на выробленую ім прадукцыю. Аднак да цяперашняга часу пытанне застаецца адкрытым. Таксама вядуцца актыўныя перагаворы па пастаўцы шампанскага ў РФ і іншыя краіны.

У выніку гэтай работы чакаецца заключэнне кантракта з расійскай фірмай «Саюзпрамімпэкс» (Масква) на пастаўку 1,5 млн. бутэлек шампанскага. Таксама ёсць дагаворы на пастаўку 0,6 млн. бутэлек у Польшчу.

Копіі дагавораў вам будуць прадстаўлены...

У 1998 годзе будзе выраблена 10,7 млн. бутэлек шампанскага, з якіх на экспарт плануецца адгрузіць 3,5 млн. бутэлек (пры ўмове змяншэння стаўкі акцызнага падатку).

Улічваючы сітуацыю, якая склалася і пры якой мы не ў стане ва ўстаноўлены тэрмін пагасіць запазычанасць у суме 2 млн. долараў ЗША, просім пралангіраваць пазыку да 31.12.98 г. не павышаючы працэнтнай стаўкі за крэдыт, у выглядзе выключэння ...»

На жаль, гэтая просьба дырэктара МЗШВ не знайшла разумення ў Белзнешэканамбанку, які, дзейнічаючы законнымі метадамі, пасадзіў завод на пратэрміноўку, што значна павялічвае суму па працэнтах за крэдыт. Па стану на 12.02.98 г. запазычанасць МЗШВ перад банкам складала 1.800 тыс. долараў ЗША.

Ва ўмовах, блізкіх да крытычных, завод у лістападзе - снежні мінулага года за кошт уласнай выручкі пагасіў крэдыт на $ 600 тыс. Акрамя таго, больш за $ 400 тыс. пагашана на Міжбанкаўскай валютнай біржы. Праўда, такі шлях набыцця СКВ сячэ прадпрыемства пад корань, бо курсавая розніца паміж Міжбанкаўскім курсам і курсам Нацбанка пакрываецца заводам за кошт неразмеркаванага прыбытку. Дык вось, аперацыя пакупкі 400 тыс. долараў ЗША «абышлася» МЗШВ у 5,1 млрд. рублёў неразмеркаванага прыбытку (пры яго агульным памеры у 8,9 млрд. рублёў).

Сёння, на жаль, Мінскі завод шампанскіх він застаўся ў адзіночку змагаецца з пагашэннем валютнага крэдыту. І шкада, што аб гэтым адзіным у Беларусі такога профілю прадпрыемстве нашы чыноўнікі ўспамінаюць толькі тады, калі прыходзіць час плаціць падаткі ці напярэдадні наступлення навагодніх святаў.

Відавочна, што калі ў бліжэйшы час урад рэспублікі не знойдзе шляхі выхаду з гэтай складанай сітуацыі, то Беларусь можа страціць завод па вытворчасці шампанскага.

Пры сённяшнім раскладзе, калі на МЗШВ штодзень будзе нарастаць пеня, за кошт рэштакаў вінаматэрыялаў ёсць магчымасць выраблаць шампанскае да 1 красавіка 1998 года, затым вытворчасці пагражае спыненне, у выніку якога непазбежныя страты бюджэту:

— акцызнага падатку — 298,6 млрд. рублёў

— падатку на дабаўленую вартасць — 21,2 млрд. рублёў

— падатку на прыбытак і іншых падаткаў — 20,6 млрд. рублёў.

Такая сумная перспектыва мае зусім рэальныя контуры. За праблемай непагашанага валютнага крэдыту нябачна стаіць пытанне аб закупцы не пазней чым да мая 1998 года новых вінаматэрыялаў, для чаго зноў патрэбна валюта. Па самых сціплых падліках, пры гадавым аб'ёме вытворчасці шампанскага ў памеры 10,7 млн. бутэлек, патрэбна не меней як 4,3 млн. долараў ЗША. Разам з сённяшняй запазычанасцю гэта лічба ўжо складае $ 6,2 млн. А калі прыплюсаваць сюды 30 працэнтаў СКВ, якая падлягае абавязковаму продажу па курсу Нацбанка на Міжбанкаўскай валютнай біржы, то ўвогуле набягае паўастранамічная сума ў $ 8,8 млн. Для таго, каб яе займець на працягу некалькіх месяцаў на разліковым рахунку прадпрыемства, МЗШВ неабходна ў бліжэйшыя два з паловай месяцы выпусціць і рэалізаваць толькі на экспарт 4513 тысяч бутэлек шампанскага. Але ж гэта нерэальна і з пункту гледжання аб'ёмаў вытворчасці і з-за адсутнасці пакупнікоў у сувязі з неканкурэнтаздольнасцю прадукцыі на расійскім рынку (з-за высокага акцызнага падатку — 1,2 ЭКЮ за 1 л шампанскага).

Як бачна, кола праблем вакол Мінскага завода шампанскіх він звужаецца. Вельмі хочацца верыць, што пытанне: «Хто ж дапаможа Мінскаму заводу шампанскіх він?» не стане сігналам «SOS», на які ніхто не адгукнецца.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

***P.S.*** *Тыдзень таму — 17 лютага 1998 года МЗШВ споўнілася 20 гадоў, з чым мы і віншуем калектыў прадпрыемства.*

**Геапалітыка**

# Місія АБСЕ: гэта многіх цяжкі шлях

**У хуткім часе ў Беларусі пачне дзейнічаць кансультатыўна-маніторынгавая місія Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ), якая будзе сачыць за сітуацыяй з захаваннем у нашай краіне правоў чалавека. Беларускія ўлады не без ваганняў далі згоду на працу еўрапейскіх назіральнікаў і кансультантаў, паколькі не жадалі і не жадаюць, каб краіна расцэньвалася ў свеце як рэгіён патэнцыяльнай нестабільнасці.**

У пэўнай ступені гэтай боязі уладаў спрыяла апазіцыя, якая настойвае на больш шырокім удзеле еўрапейскіх арганізацый у вырашэнні беларускіх праблем.

Ці маюць рацыю тыя, хто расцэньвае факт адкрыцця ў Беларусі місіі АБСЕ як з'яву выключную, як сведчанне таго, што Захад гатовы да самых рашучых дзеянняў у дачыненні да нашай краіны? І наадварот — ці апраўданыя спадзяванні тых, хто разлічвае, што плёнам работы місіі стане хуткае наладжванне добрых адносінаў паміж афіцыйным Мінскам і еўрапейскімі структурамі?

Каб адказаць на гэтыя пытанні, паспрабуем коратка абагульніць не такі ўжо вялікі вопыт дзейнасці місій АБСЕ на нашым кантыненце, які пачаў адлік сваёй гісторыі з верасня 1992 года. За мінулыя пяць гадоў групы назіральнікаў пад сцягам АБСЕ дзейнічалі і дзейнічаюць у наступных краінах:

— **Македонія**. Маленькая краіна, што ўтварылася на абломках саюзнай Югаславіі, доўгі час балансавала на мяжы вайны: з поўначы яна апасалася Сербіі, з поўдня Грэцыя аб'явіла ёй эканамічную блакаду і заклікала сусветную супольнасць не прызнаваць краіну пад назвай Македонія, паколькі назва нібыта належыць выключна гістарычнай вобласці Грэцыі; нарэшце, з захаду захоўваецца пастаянная пагроза з боку нестабільнай Албаніі (у самой Македоніі амаль палова насельніцтва — этнічныя албанцы). Місія АБСЕ, якая дзейнічае ў Скоп'е і па сённяшні дзень, дапамагла ўладам змякчыць супярэчнасці паміж македонцамі і албанцамі. (У далейшым у Македонію былі ўведзены армейскія падраздзяленні ААН.)

— **Малдова.** Прыднястроўская праблема ў гэтай краіне дагэтуль не вырашана. Аднак місія АБСЕ ў Кішынёве здолела разам з расійскай (а з нядаўняга часу і з украінскай) дыпламатыяй змякчыць канфлікт цэнтральных малдаўскіх уладаў з Цірасполем. Стрэлы на берагах Днястра не гучаць з 1992 года. І справа яўна рухаецца да таго, што Цірасполь вымушаны будзе змірыцца з уваходжаннем у састаў Малдовы на правах аўтаноміі.

— **Грузія**. Маленькая аўтаномія паўднёвых асецін у свой час ледзь не стала грузінскім варыянтам Чачні. Пры садзейнічанні еўрапейскіх назіральнікаў канфлікт быў спынены на парозе буйнамаштабнага насілля.

— **Латвія.** Місія АБСЕ адкрыта ў 1993 годзе для садзейнічання ў вырашэнні пытанняў, звязаных з правамі чалавека і нацыянальных меншасцяў. У краіне 37 працэнтаў насельніцтва размаўляе на рускай мове як на роднай (900 тысяч з 2,5 мільёна чалавек). Колькасць асоб без грамадзянства дасягае 659 тысяч. Эксперты АБСЕ (а з іх падачы і іншыя еўрапейскія структуры) настойваюць на паскарэнні працэсу натуралізацыі неграмадзян. У Латвіі з красавіка 1995 года грамадзянства прадастаўлена 4500 рускамоўным жыхарам. Эксперты місіі сочаць за дзейнасцю камісіі па прадастаўленню грамадзянства, якая прымае абавязкова экзамен па латышскай мове, гісторыі і канстытуцыі. З нядаўняга часу асобы без грамадзянства з ліку былых савецкіх грамадзян маюць магчымасць атрымліваць у Латвіі спецыяльны пашпарт.

— **Эстонія.** Місія АБСЕ створана на той жа падставе, што і ў Латвіі. (Каля 500 тысяч жыхароў Эстоніі з 1,5 мільёна — рускамоўныя; каля 2/3 з'яўляюцца грамадзянамі краіны, 120 тысяч атрымалі пашпарты Расійскай Федэрацыі, 215 тысяч грамадзянства не маюць). У адрозненне ад Латвіі, у Эстоніі прыслухаліся да рэкамендацый АБСЕ аб спрошчанай працэдуры прадастаўлення грамадзянства: з 1992 года эстонскія пашпарты атрымалі каля 90 тысяч рускамоўных жыхароў. У выніку ў пачатку 1997 года АБСЕ прызнала, што **«ў Эстоніі няма прымет сістэматычнага праследавання нацыянальных меншасцяў ці сістэматычнага парушэння правоў чалавека»**. Гэта стала падставай для таго, што Эстонія адзіная з постсавецкіх краін разам з Польшчай, Чэхіяй, Венгрыяй, Славеніяй і Кіпрам уключана ў пералік першачарговых кандыдатаў на прыняцце ў Еўрапейскі Саюз.

— **Расія.** Місія АБСЕ ў Грозным у надзвычай складаных умовах узброенага канфлікту садзейнічала заключэнню расійска-чачэнскага перамір'я. Першапачаткова яе адкрыццё было сустрэта ў Маскве насцярожана, з недаверам.

— **Украіна.** Вопыт работы місіі АБСЕ ў Крыме лічыцца не самым удалым: у сакавіку 1995 года, у момант абвастрэння сітуацыі на паўвостраве, прадстаўнікі місіі не праявілі актыўнасці і, паводле ацэнак кіраўніцтва АБСЕ, не знайшлі **«агульнай яснай і таму эфектыўна папераджальнай дыпламатычнай мовы»**.

— **Новая Югаславія.** Місія была адкрыта ў 1992 годзе ў населеным пераважна албанцамі аўтаномным краі Косава. У ліпені 1993 года бялградскія ўлады адмовіліся падоўжыць супрацоўнікам місіі візы і яны вымушаны былі пакінуць гэты рэгіён.

— **Харватыя.** Місія адкрыта з 1996 года ў раёнах, якія пакуль не пакінула сербскае насельніцтва.

— **Боснія і Герцагавіна**. Місія створана ў рамках выканання дэйтанскіх пагадненняў. Адна з самых шматлікіх: складаецца з некалькіх соцень супрацоўнікаў і адна расходуе амаль палову бюджэту АБСЕ, прызначанага на гэтыя мэты.

— **Таджыкістан.** Місія АБСЕ садзейнічала спыненню грамадзянскай вайны і цяпер спрые таму, каб рэжым Эмамалі Рахмонава наладжваў разумны дыялог з апазіцыяй.

Такім чынам, Беларусь стане 12-й краінай, куды АБСЕ накіроўвае місію для вырашэння пэўных палітычных праблем. З прыведзенага вышэй пераліку відаць, што ў пераважнай большасці выпадкаў падставай для адкрыцця місій сталі міжэтнічныя супярэчнасці. Хоць не толькі яны. Для прыкладу, у Эстоніі і Латвіі размова ішла якраз аб парушэнні ўладамі правоў чалавека, а ў Таджыкістане еўрапейцы дапамагалі наладжваць перамовы з апазіцыяй.

Прыведзеныя прыклады сведчаць: адкрыццё місіі не з'яўляецца ва Усходняй Еўропе і на постсавецкай прасторы чымсьці выключным. Гэта — не кляймо ізгоя і не інструмент экспансіі або ціску. Хоць, з другога боку, урады некаторых краін (для прыкладу, Эстоніі, Латвіі, Украіны, Македоніі) настойваюць на адкліканні місій са сваёй тэрыторыі, паколькі лічаць, што пастаўленыя задачы місіі ўжо выканалі, а далейшае іх знаходжанне шкодзіць іміджу краін як стабільных і дэмакратычных дзяржаў.

**Валяцін ЖДАНКО.**




Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

## Васіль ПАНКОЎ: «ПРА НАС УЖО ВЕДАЮЦЬ «ХТО МЫ ТАКІЯ» І «З ЧЫМ НАС ЯДУЦЬ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

— Была справа. Заходзіў у распранальню, гутарыў з намі, на раскатку выходзіў — некалькі разоў шчоўкнуў па варотах ды Мезін адбіў. Нармальна ўсё!

**— А японцы падтрымлівалі беларускіх хакеістаў?**

— О! Не тое слова! Па-першае, сустракалі нас у Японіі як нейкіх іншапланецян — дайце рукамі дакрануцца, хто гэта такія і з чым іх можна есці (у сэнсе журналісты пачалі чапляцца з допытамі). Пасля першай перамогі японцы ўжо ведалі «хто мы такія», пасля другой — і «з чым нас ядуць», ну а пасля нашай нічыёй з іхняй хакейнай зборнай (матч сапраўды быў цяжкім), і, наогул, палічылі за «сваіх». Як там яны казалі: «Насы беларусы!»

**— Умовы пражывання?**

— Усё на ўзроўні, калі не лічыць, што жылі ў пакойчыках без тэлевізараў. Можа і да лепшага — мы ж не «Еўраспорт» прыехалі глядзець.

**— З дамашнімі сувязь падтрымлівалі?**

— Так! Тэлефаную дадому, жонка Лена адразу ж: «Вася, давай паднацісні!» А 5-гадовая дачушка Вікторыя яшчэ працей: «Татка, калі прыедзеш? Што прывязеш?» Прывёз вунь ёй усялякіх мяккіх цацак — радасці на ўсю кватэру!

**— У Браціславе жывяце з сям'ёй?**

— Так. Кватэра, машына — аніякіх праблем. Сёння вось туды і адпраўляемся.

**— Што ж, шчаслівай дарогі! І яшчэ раз дзякуем за тую гульню, якую паказала наша каманда на зімовых Алімпійскіх гульнях у Нагана!**

**Алесь СІВЫ.**

КРЫМІНАЛ

### ...і 38 пячатак

**У суботу работнікі міліцыі праводзілі на аўтамабільным рынку паблізу вёскі Азярцо Мінскага раёна апературыўныя мерапрыемствы.**

Іх увагу прыцягнулі двое грамадзян, якія пераглядаліся адзін з адным. І праз гадзіну ў іх руках апынуліся не «дробныя рыбкі». У затрыманых двух грамадзян Літвы і двух сталічных жыхароў, не маючых, як высветлілася, пастаяннага месца работы, былі канфіскаваны падробныя чотна-рэгістрацыйныя дакументы, камп'ютэрная тэхніка, 2 друкавальныя ўстройствы, бланкі тэхнічных пашпартоў на аўтатранспарт, даведкі-рахункі, даверанасці, дагаворы, транзітныя нумарныя знакі і 38 розных пячатак.

**Васіль НІКАЛАЕЎ.**

### У сумцы было выбуховае ўстройства

**На мінулым тыдні ў адзін з жылых будынкаў па вуліцы Даватара ў Гродне прыязджалі сапёры. Прычынай іх візіту быў зусім не тэлефонны «розыгрыш».**

Трывогу забіў адзін з жыхароў дома, які працуе ў сістэме аўтасервісу. Вечарам па дарозе дамоў ён убачыў на лесвічнай пляцоўцы сумку. Чалавек, па яго словах, падумаў, што знаёмыя прынеслі нейкія дэталі. Не зазірнуўшы ў сумку, вынес яе на балкон. Назаўтра паглядзеў, што гэта за дэталі, і, насцярожыўся, выкінуў сумку на вуліцу. Як аказалася, недарэмна. Эксперты высветлілі, што ў сумцы было выбуховае ўстройства. Дзякуй Богу, што яно не спрацавала.

Гэтай справай цяпер займаецца следства. Па словах чалавека, які забраў з лесвічнай пляцоўкі сумку, ворагаў у яго няма.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# СМЕХАТЭРАПІЯ

## ВОСЬ ЯК БЫВАЕ!

Даішнік спыняе іншамарку, за рулём якой сядзіць каўказец. Машына спыняецца, аднак вадзіцель з яе не выходзіць. Міліцыянер таксама стаіць на месцы. Праз дзесяць хвілін каўказец крычыць:

— Эй, дарагой, я нэ панымаю, каму дэнгі нужны, тэбэ ілі мне?

•

Вечарам мужык прыходзіць дадому і садзіцца разгадваць красворд. Нешта не заладзілася, і ён крычыць у бок кухні:

— Гэй, Надзька, ляпні ў шафу, можа твой хахаль ведае паўвостраў з чатырох літар?!

•

Два «крутыя» едуць у іншамарцы спякотным летнім днём. Абодва ў фрэнчах і зацягнутых гальштуках. Адзін не вытрымлівае і кажа:

— Братан, давай акно адчынім. З мяне пот градам коціцца!

— Не. Няхай усе думаюць, што ў нас кандыцыянер!

•

«Круты» гуляе на вуліцы са здаравенным сабакам. Зіма, холадна, мароз сорак градусаў. Раптам бачыць мужычка ў адным фрэнчыку, якога так і трасе ад холаду. Падыходзіць да яго і пытае:

— Гэй, мужык, сагрэцца хочаш?

— Хачу! — адказвае бедалага.

— Фас! — кажа «круты» сабаку.

•

Размаўляюць дзве сяброўкі. Адна пытае:

— Ты задаволеная сваім мужам?

— У прынцыпе так, але ён такі спешчаны. Калі мые пялёнкі, то патрабуе, каб я яму чытала ўслых газету!

### НАТАТКІ НА ПАЛЯХ КАПЕЛЮША

Артыстка П. за адзін дзень страціла 10 кг. Забыла ў аўтобусе авоську з прадуктамі.

❑

Вядомы кампазітар К. паспрабаваў напісаць песню для рок-групы. Нічога не атрымалася — заўсёды выходзіла лепш, чым патрабавалася.

## АНЕКДОТЫ АД «ЗОРАК»

**Міхаіл БАЯРСКІ:**

Падчас сваркі жонка крычыць мужу:

— Усё! Я падаю на развод!

Мужык адказвае:

— Я — за. Абодвума рагамі.

■

**Ірына АЛЕГРАВА:**

Рыбалоў насаджвае чарвяка на кручок. Раптам чарвяк кажа:

— Мужык, га, мужык! Ты, таго, вельмі моцна не падсякай, а то ў мяне вушы закладвае!

■

**Уладзімір ПРАСНЯКОЎ:**

Пасля папойкі прачынаюцца два сябры. Адзін з іх са стогнам спаўзае з ложка і кажа:

— Чуеш, Вась, а што ўчора было хоць? Нічога не памятаю!

— Шчаслі́ўчык!




Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

УСЁ ПРА ЎСЁ

### БАБОВЫЯ ВЫРАТОЎВАЮЦЬ ЖЫЦЦЁ

Замест таго каб бегчы да кардыёлага і глытаць нітрагліцэрын тры разы на дзень, ешце бабовыя. Даследчыкі з Гарварда даказалі: фасоля, гарох, соя, якія ўтрымліваюць вялікую колькасць антыксідантаў, дапамагаюць арганізму змагацца з халестэрынам, лішак якога, як вядома, прыводзіць на інфаркту.

### СОКІ АСОБНА, ТАБЛЕТКІ АСОБНА

Грэйпфрутавы сок можа ўзмацняць ці аслабляць дзеянне лекавых сродкаў, са здзіўленнем канстатавалі фармакологі. І хоць пад выпрабаванне трапіла далёка не ўсё змесціва аптэчных прылаўкаў, лепш запіваць таблеткі вадой.

### ДОНЖУАНЫ НЕБЯСПЕЧНЫЯ ДЛЯ ЗДАРОЎЯ

Вучоныя вынайшлі, што верагоднасць захворвання на рак шыйкі маткі павялічваецца ў адзінаццаць разоў ў тых жанчын, чые мужы або каханыя мяняюць партнёрак як пальчаткі. Высновы рабіце самі.

### ВОСЬ ГЭТА БІЛЕТ!

У Японіі распрацаваны арыгінальны білет на метро. Яго не трэба прад'яўляць кантралёру пры ўваходзе, не трэба і ўстаўляць у шырока распаўсюджаныя ў краіне электронныя апараты-кантралёры. І хоць білет электронны, інфармацыя з яго счытваецца спецыяльным устройствам, якое ўстанаўліваецца на ўваходзе ў метро, на значнай адлегласці. Гэта дазваляе практычна поўнасцю пазбавіцца ад стоўпатварэння ля турнікетаў у час пік.

**Па матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**



## Старонка Паўла Глобы

### 24 лютага, аўторак

**РЭКАМЕНДАЦЫІ.** З гэтага дня і да 1 сакавіка прадоўжыцца аура сонечнага зацьмення, якое адбудзецца 26 лютага. На працягу ўсяго тыдня захоўвайце асцярожнасць і будзьце гранічна ўважлівыя ва ўсіх справах. Памятайце, што неабдуманыя дзеянні і дрэнныя ўчынкі могуць выклікаць незваротныя працэсы. А сёння нельга марудзіць і ленавацца, усё трэба рабіць хутка. Не рэкамендуюцца планамерныя дзеянні. Удзяліце больш увагі заняткам з дзецьмі, добра зрабіць дзіцяці падарунак. Пастарайцеся старанна прыбраць сваю кватэру. Нельга сумаваць. Пазбягайце п'янства і курэння. Старайцеся многа не спаць і менш глядзецца ў люстэрка. У гэты дзень дрэнна ўздзейнічае на чалавека халодная вада. На працягу усяго зацемненага тыдня не рэкамендуецца есці мясныя прадукты, яйкі, семкі і арэхі.

**АДЗЕННЕ.** Прытрымлівайцеся яркіх колераў, не рэкамендуюцца змрочныя тоны, сіні і чорны колеры.

**ПРЫМЕТЫ.** Калі пры выхадзе раніцай з дому вас сустракае дзіцячы смех, то гэта сведчыць аб будучым багацці. Птушка, якая заляцела да вас у дом, можа быць указаннем на шчасце. Калі адрываецца гузік — да хваробы.

**СНЫ.** Не трэба звяртаць асаблівую ўвагу на сны ў гэты дзень. Выключэнне складаюць тыя, у якіх вы бачыце коней — знак вырашэння крызіснай сітуацыі.

**МЕДЫЦЫНА.** На час зацемненага тыдня лепш не намячаць ніякіх аперацый. Сёння асаблива слабыя вочы, галёнкі. Проціпаказанае донарства. Добра лячыць сэрца.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

### СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Заход | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск | 7.11 | 17.36 | 10.25 |
| Віцебск | 7.03 | 17.23 | 10.20 |
| Магілёў | 7.00 | 17.25 | 10.25 |
| Гомель | 6.54 | 17.25 | 10.31 |
| Гродна | 7.25 | 17.51 | 10.26 |
| Брэст | 7.23 | 17.55 | 10.32 |

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Уласія, Усевалада, Дзімітрыя

К. Богуша, Мацея

**МЕСЯЦ**

**Апошняя квадра 19 лютага**

*З 7.06 — 27-ыя месяцавыя суткі. З 7.11 Месяц — у сузор'і Вадалея*

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовыя ападкі. Тэмпература паветра ў Мінску і Віцебску — 2–4, Гродне і Магілёве — 3–5, Брэсце і Гомелі — 4–6 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 25-га ўдзень — па заходняй палавіне, 26-га ўначы — па большай частцы тэрыторыі, удзень — па ўсходу мокры снег. Тэмпература 25-га ўначы — 6–11, па паўночнаму ўсходу — 12–16, удзень — 0–5 градусаў марозу; 26-га ўначы — мінус 3 — плюс 2, удзень — 3–8 градусаў вышэй нуля.



*Родныя і блізкія выказваюць падзяку старшыні калгаса імя Чарняхоўскага Карэліцкага раёна САТЫГУ Уладзіміру Максімавічу за дапамогу ў арганізацыі пахавання ветэрана калгаса Брыль Валянціны Васільеўны.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.119. Індэкс 63850.
Зак. № 1006.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12